



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

4 верасня 2020 года №36 (1323)

18+


# Былы актывіст БРСМ расказвае, як яго збівалі сілавікі








старонка 20

Маладзечанец Дзмітры Бялоў.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## Як прайшоў Дзень ведаў у Вілейцы і Маладзечне

старонкі 2-3

## Чым займаецца маладзечанская ініцыятыўная група

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by





## Віляйчанка страціла амаль сто рублёў, паверыўшы махляру

старонка 4

## Вялікая гутарка з першым Міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Краўчанкам

старонкі 18-19

# Два класы – першакласнікаў і два – выпускнікоў

## Як прайшоў Дзень ведаў у вілейскай школе №3

ВІЛЕЙКА

**1 верасня карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» наведалі святы першага званка ў вілейскай школе №3.**

Сюды сёлета прыйшлі вучыцца два першыя класы. У 1 «А» класе – 24 вучні, у 1 «Б» – 17. А два 11 класы ў гэтым навучальным годзе скончаць школу.

– За лета наша школа засумавала па вам і кожнага з задавальненнем чакае, – звяртнуўся да вучняў дырэктар школы **Мікалай Гіро**.

Ён пажадаў калегам-настаўнікам прафесійных поспехаў, а бацькам – быць дарадцамі і памочнікамі дзяцей. Дырэктар школы ўзнагародзіў свайго намесніка **Валянціну Рагоўскую**. Валянціна Эдуардаўна паспяхова паўдзельнічала ў нацыянальным конкурсе праектаў «Энергамарафон-2019». За гэта школа атрымала сорак тысяч рублёў. За іх памянялі аконныя рамы.

Атрымаў узнагароду і сам дырэктар школы. Старшыня ГА «ЗОВіК», начальнік аддзела занятасці Вілейскага райвыканкама **Таццяна Цітуленка** ўзнагародзіла школу за актыўны ўдзел у экалагічным конкурсе. Падарункі ад яе атрымалі і некаторыя работнікі школы. Вучняў таксама ўзнагародзілі за іх поспехі. Так, **Льва Карткоту** адзначылі за журналісцкую і краязнаўчую працу.

Беларуская мова, ужо па традыцыі, гучала на ўрачыстасці толькі з вуснаў дырэктара школы Мікалая Гіро. Аднак, па словах дырэктара, наступную лінейку паспрабуюць зрабіць цалкам беларускамоўнай.

Ну што ж... Прыедзем правяраць.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Аляксей Зубель і Вера Пестрацова даюць першы званок.

# Як праходзіла 1 верасня ў школах Маладзечна

**У школах Маладзечна Дзень ведаў прайшоў па-рознаму. У многіх установах адукацыі на ўрачыстасці дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі.**


Фота Яўгеніі ПРЫГОДЗІЧ.

1 верасня ў пятай школе Маладзечна.

Мама першакласніка з СШ №2 расказвае:

– Ад гэтага дня дваістыя ўражанні. З аднаго боку, хацелася свята для дзіцяці. З іншага, відавочная нацягнутасць паміж бацькамі і адміністрацыяй.

Звычайна на лінейках дораць кнігу «Мая Радзіма – Беларусь» нібыта ў якасці падарунка ад Аляксандра Лукашэнкі. Нам не дарылі.

Дзеці пайшлі ў клас, і на першы ўрок бацькоў у школу не пусцілі, сказалі, што ў 18 гадзін бацькоўскі сход. Бацькоў у школу будуць пускаць толькі першыя два тыдні ў сувязі з эпідэміялагічнай абстаноўкай.

У СШ №5 для дзяцей 1 верасня правялі свята. Першакласнікаў і 11-класнікаў павіншавалі, зладзілі невялікую праграму, і дзеці пайшлі на ўрокі. Часткі з урачыстым узняццем Дзяржаўнага сцяга і праслухоўвання гімна не было.

Мама першакласніка гімназіі №7 сказала, што акрамя гімна і падняцця Дзяржаўнага сцяга на свяце не было нічога ідэалагічнага.

Маці другакласніка гімназіі-каледжа мастацтваў сказала, што на ўрачыстасці не было намёкаў на палітыку або ідэалогію. Усё зладзілі хутка і па тэме школы.

У школе №14 сем першых класаў. Дзяцей сабралі ў актавай зале. Іх віншавала дырэктар Каліна Капуцкая, пакалі некалькі музычных і харэаграфічных нумароў. Пра ідэалогію, сцяг і гімн нічога не казалі. Крыху расказалі пра вучобу. Маці першакласніка заўважыла, што амаль усе дзеці былі з кветкамі. У тым ліку і яе дзіця – таму што іх першая настаўніца ў выбарчай камісіі не ўдзельнічала.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**11**

столькі вучняў прыходзілася на аднаго настаўніка ў гарадскіх школах у 2019/2020 навучальным годзе

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.08 | 3.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6483 | **2.6459** |
| Еўра | 3.1286 | **3.1397** |
| Злоты, 10 | 7.1016 | **7.1213** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.5062 | **3.5758** |
| Грыўня, 100 | 9.6453 | **9.5641** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **26.08** | **2.09** |
| Еўра | 3.1300/3.2150 | **3.1000/3.2000** |
| Долар ЗША | 2.6500/2.7290 | **2.6000/2.6800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **26.08** | **2.09** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | **20,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **8,05** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,70 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **2,55** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,75** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,90 | **1,10** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 2,40 | **2,80** |
| Перац, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **6,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **5,20** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **3,10** |
| Вінаград, 1 кг | 5,70 | **6,40** |
| Грушы, 1 кг | 4,50 | **4,70** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,20** |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **6,70** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,60** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,80 | **6,00** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **6,30** |
| Персікі, 1 кг | 4,30 | **5,20** |
| Чарэшні, 1 кг | – | **–** |
| Яблыкі, 1 кг | 3,00 | **3,80** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 16,00 | **16,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Кіроўца на «Фордзе» са спушчаным колам уцякаў ад ДАІ

ВАЛОЖЫН

25 жніўня каля паловы пятай раніцы нарад ДАІ Мінскага РУУС звярнуў увагу на аўтамабіль, які ехаў па МКАД са спушчаным пярэднім колам і без уключаных фар.

Для спынення іншамаркі міліцыянеры ўключылі праблісковыя маячкі сіняга і чырвонага колераў, а таксама запатрабавалі спыніць рух. Замест гэтага кіроўца павялічыў хуткасць і паспрабаваў уцячы.

Падчас пагоні на МКАД хуткасць правапарушальніка дасягала 150 кіламетраў у гадзіну, ствараючы тым самым рэальную небяспеку для ўдзельнікаў дарожнага руху. На затрыманне накіравалі дадатковыя нарады гарадской ДАІ.

На развязцы МКАД – вуліца Прытыцкага – М6 кіроўца з'ехаў з кальцавой і працягнуў рух у бок Гродна да развязкі з аўтадарогай Радашкавічы-Ракаў. Там ён не справіўся з кіраваннем. Іншамарку занесла, і яна спынілася.

Калі інспектары выбеглі на вуліцу, кіроўца рэзка паехаў у іх бок і ўрэзаўся ў службовы аўтамабіль. У выніку хлопца затрымалі ў Ракаве пасля таго, як ён урэзаўся ў агароджу і паспрабаваў уцячы у лес.

**Кіроўцам аказаўся 18-гадовы жыхар Валожынскага раёна, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.**

У дачыненні да затрыманага склалі некалькі адміністрацыйных пратаколаў.

**Паводле МУС.**

## Матацыкліст збіў жанчыну. Яна загінула

ВАЛОЖЫН

Жанчына загінула пад коламі матацыкла ў Валожыне.

Здарэнне адбылося 25 жніўня каля 10 гадзін вечара на вуліцы Шчарбіны. Паводле папярэдняй інфармацыі, 26-гадовы кіроўца матацыкла «Хонда» ехаў з боку вуліцы Леніна ў напрамку плошчы Свабоды і збіў 42-гадовую жанчыну, якая ішла па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

У выніку ДТЗ жанчына ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памерла на месцы здарэння.

**Паводле прэс-службы ДАІ Беларусі.**

## Гарэла кватэра ў недабудаванай дзевяціпавярхоўцы

МАЛАДЗЕЧНА

25 жніўня ў 15:10 у ГРАНС Маладзечна паведамілі пра загаранне па Вялікім Гасцінцы. На месцы выратавальнікі ўбачылі, што ідзе дым з акна на першым паверсе дзевяціпавярхоўкі. Дом яшчэ толькі будуецца. У аднапакаёвай кватэры, дзе адбыўся пажар, электрычнасці не было.

Прычына пажару высвятляецца. Найбольш верагодная – парушэнне супрацьпажарных патрабаванняў пры правядзенні зварачных работ. У выніку пажару пашкоджаныя тры кубічныя метры гукаізаляцыйных пліт, закураныя сцены кватэры, распавялі ў Маладзечанскім ГРАНС.

Патрабаванні пажарнай бяспекі пры правядзенні агнявых работ выкладзены ў «Спецыфічных патрабаваннях па забеспячэнні пажарнай бяспекі выбуховаебяспечных і пажараебяспечных вытворчасцяў», зацверджаных пастановай Савета Міністраў Беларусі і іншымі нарматыўнымі дакументамі, паведамілі ў ГРАНС.

**Аддзел інфармацыі.**

# Невядомы назваўся работнікам банка і падмануў віляйчанку

### Яна страціла 96 рублёў

ВІЛЕЙКА

**Пра здарэнне карэспандэнту расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС Мікалай Мягкоў.**




Міліцыя звяртае ўвагу, што на Вілейшчыне крадзяжы грошай з картак сустракаюцца ўсё часцей.

26 жніўня ў Вілейскі РАУС паступіла заява ад жыхаркі Вілейкі пра тое, што ў яе з банкаўскай карткі выкралі грошы. Міліцыянеры ўстанавілі, што невядомы патэлефанаваў на мабільны тэлефон віляйчанкі і прадставіўся супрацоўнікам сэрвіснай службы «Беларусбанка». Зламыснік паведаміў, што з карткі жанчыны цяпер пераводзяцца грошы на іншы рахунак. Віляйчанка адказала, што яна нічога нікуды не пераводзіла. Тады ёй прапанавалі заблакаваць падазроны перавод. Але для гэтага трэба было паведаміць рэквізіты сваёй карткі.

Як толькі жанчына паведаміла нумар карткі, тэрмін яе дзеяння і CVV-код, размова з ёй спынілася. А праз некаторы час з рахунку зніклі 96 рублёў.

Па дадзеным факце ўзбудзілі крымінальную справу па частцы два артыкула 212 КК Рэспублікі Беларусь. Праводзяцца мерапрыемствы па ўсталяванні зламысніка. Санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць пакаранне штрафам або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам ці абмежаваннем волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў, або пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці гадоў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю, або без пазбаўлення.

– Хочацца ў чарговы раз нагадаць віляйчанам, што падобныя спосабы крадзяжу грошай у апошні час сустракаюцца ўсё часцей. Толькі ад пачатку жніўня 2020 года гэта ўжо дзявяты выпадак. Жыхары Вілейскага раёна страцілі розныя сумы да 2000 рублёў, – звяртае ўвагу Мікалай Мягкоў.

**Міліцыя Вілейкі нагадвае**: супрацоўнік банка пры тэлефанаванні кліенту ні пры якіх абставінах не запатрабуе рэквізітаў банкаўскіх картак ці іншай канфідэнцыйнай інфармацыі. Просьба незнаёмага абанента, каб далі такія звесткі, сведчыць пра тое, што размова вядзецца з махляром.

У гэтым выпадку неадкладна завяршыце размову і звярніцеся ў кантакт-цэнтр банка, раскажыце пра сітуацыю і далей прытрымлівайцеся рэкамендацый прадстаўніка ўстановы. Калі зламысніку ўсё ж удалося атрымаць рэквізіты карткі або быў усталяваны факт крадзяжу грашовых сродкаў, неадкладна заблакуйце картку (нумар тэлефона ўказаны на адваротным баку карткі) і звярніцеся з заявай у праваахоўныя органы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## У Ілы загінуў 42-гадовы мужчына

ВІЛЕЙКА

Мужчына загінуў ва ўласным доме падчас пажару.

Як расказала старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Дыяна Жалязняк**, пра пажар вілейскім выратавальнікам паведамілі 29 жніўня, каля васьмі раніцы.

Гарэў жылы дом у Ілы, на вуліцы Савецкай. Падчас пажару загінуў мужчына – 42-гадовы гаспадар дома. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу хлопец трапіў пад цягнік

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля апоўначы 29 жніўня на перагоне Уша-Маладзечна.

Па папярэдняй інфармацыі, 18-гадовы жыхар Вілейшчыны пераходзіў чыгунку ва неўстаноўленым месцы. Машыніст экстранна затармазіў.

Пацярпелы трапіў у бальніцу з чэрапна-мазгавой траўмай цяжкай ступені.

**Паводле МУС.**

# Расійская прапаганда адмаўляе беларускую нацыю

**Беларуская палітычная павестка стала адным з важных пытанняў у эфіры расійскіх медыяў. Прычым як свабодных, так і не, якія не грэбуюць прапагандысцкімі прыёмамі.**




Фота са старонкі vk.com.

Выкладчык Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта Вадзіма Трухачоў у Крыме летам 2014 года.

Напрыклад, у публікацыі **Вадзіма Трухачова** «Русское предложение» для Белоруссии – трудно, но выполнимо» аўтар заяўляе, што рускія і беларусы з'яўляюцца адным народам. Сумненні ў аўтара ёсць толькі наконт беларусаў-каталікоў. Тэзісы выкладчыка кафедры замежнага рэгіёназнаўства і знешняй палітыкі Гісторыка-архіўнага інстытута Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта Трухачова абвяргае школьная праграма па гісторыі Беларусі. Апублікаваны тэкст на сайце інфармацыйнага агенцтва Eurasia Daily, створанага ў 2015 годзе.

Трухачоў з'яўляецца кандыдатам гістарычных навук, мае шэраг публікацый пра адносіны паміж еўрапейскімі краінамі. Вось некалькі назваў: «Олимпиада как заложница политики», «О братстве СССР и Югославии», «Отношение к Украине в политической элите Чехии».

Гісторык па адукацыі, Трухачоў піша, што Польшча працуе над укараненнем у краіне празаходняй, антырасійскай і антырускай свядомасці. Пры гэтым «В силу особенностей белорусов Россия может достойно ответить на данный вызов, только отталкиваясь от русского единства и русской общности».

Аўтар заяўляе, што ў адрозненне ад суседніх краін і іншых краін Еўропы беларусы маюць не вельмі высокі ўзровень этнічнага «я». Трухачоў расказвае, што сталіцамі для беларусаў маглі быць Масква, Вільня, Варшава, Пецярбург, але не Мінск, Полацк і Гродна. Пры гэтым аўтар апускае факт шматлікіх ваенізаваных сутыкненняў і войнаў паміж жыхарамі сучаснай Беларусі і маскоўскіх земляў. Ад 14 да 16 стагоддзя паміж ВКЛ і Масковіяй адбылося восем войнаў. Пасля ўваходу тэрыторый Беларусі ў склад Рэчы Паспалітай паміж бакамі адбылося пяць войнаў – Інфлянцкая праходзіла ў час існавання ВКЛ і РП. Такім чынам, казаць пра гістарычную еднасць народаў ніяк не выпадае.

Аўтар звяртае ўвагу, што нацыянальны рух беларусаў афарміўся ў канцы 19 стагоддзя, а народ не меў уласнай назвы. І што нацыянальныя героі Тадэвуш Касцюшка і Кастусь Каліноўскі насамрэч польскія, лічылі сябе палякамі і змагаліся за польскую справу. Касцюшка – прадстаўнік беларускага шляхетнага роду, нарадзіўся на Брэстчыне. Сам Тадэвуш называў сябе ліцвінам – менавіта так зваліся жыхары ВКЛ. У сям'і размаўлялі па-польску, таму што большасць шляхты ў той час ужывала польскую мову. Гэтак жа, як у Расіі ў першым дзесяцігоддзі 19 стагоддзя была мода на французскую мову сярод дваранства.

**Каліноўскі паходзіць з беларускай шляхетнай сям'і, яго газета «Мужыцкая праўда» выходзіла па-беларуску.**

Кіраваў ён нацыянальна-вызваленчым паўстаннем, а сярод паўстанцаў існаваў пароль, які ведаюць усе беларусы: «Каго любіш?» – «Люблю Беларусь!» – «Дык узаемна!».

Аўтар заяўляе, што калі беларусы пяройдуць на «цёмны» бок еўраінтэграцыі», то не толькі атрымаюць эканамічныя страты, беларусаў давядзецца яшчэ ламаць праз калена наконт мовы. Таму што, нягледзячы на ўсе спробы ўкараніць мову, большасць беларусаў лічыць роднай мовай рускую. У сямі раёнах Павілля беларускамоўныя школы існуюць толькі ў вёсках. Працоўная мова для большасці дзяржаўных устаноў – руская. Нагадаем шыльду маладзечанскага кінатэатра «Радзіма», якую пасля рамонту да рэспубліканскіх «Дажынак» замянілі на рускамоўную. Разам з тым па ўсёй краіне працуюць курсы беларускай мовы «Мова Нанова», якія ініцыявалі проста жыхары. Праблема з беларускай мовай ёсць. Але не таму, што беларусам яна чужая, а таму, што з боку ўлады з году ў год працягваецца палітыка русіфікацыі.



Вадзім Трухачоў на чэмпіянаце свету па футболе ў 2018 годзе.

Трухачоў заяўляе, што «опора на русское единство выглядит как оптимальная стратегия по недопущению отрыва Белоруссии от России» і дадае, што рускія і беларусы з'яўляюцца адным народам, пытанні ёсць толькі да беларусаў-каталікоў. Чаму аўтар у пытанне нацыянальнасці дадае рэлігію, незразумела.

Расійскі гісторык падсумоўвае, што расійскаму боку неабходна працаваць над стварэннем вобраза беларуса як часткі рускага народа. Таму што ў супрацьлеглым выпадку у Беларусі запануе ліцвінства або «палонафілія». «И более болезненного удара для России и русских трудно себе придумать».

Беларусам не прывыкаць да рускіх амбіцый з боку ўлады і праўладных інстытутаў у бок Беларусі. Ці новая гэта з'ява ў расійскай медыяпрасторы? Пракаментаваць гэта мы папрасілі палітычнага аглядальніка і медыяэксперта **Паўлюка Быкоўскага**:

– Нарацывы падобнага роду ідуць хвалямі. Калі ў беларускай улады было пагаршэнне адносін з Масквой, такія публікацыі ў выданнях для беларусаў таксама былі, але не так часта, бо варта разумець, што беларускія аўтары, якія працуюць у рэчышчы расійскай прапаганды, раней улічвалі дзве лаяльнасці – Пуціна і Лукашэнку.

**Пасля 9 жніўня пытання лаяльнасці ўжо няма: Лукашэнка больш не шукае «руку Масквы» сярод сваіх палітычных апанентаў і наадварот звінавачвае Захад у інспіраванні пратэстаў.**

Заявы пра еднасць з рускімі адпавядаюць пазіцыі Пуціна пра тое, што беларусы і рускія – «фактычны адзін народ, падзелены мяжой», а таксама пазіцы Рускай праваслаўнай царквы пра трыядзінства рускага народа (вялікаросы, маларосы і беларусы). Гэта не знаходка сённяшняга дня. Але калі мы бачым актывізацыю дзейнасці ў гэтым кірунку, то можам дапусціць, што ёй кіруе нейкая адна метадычка.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews
@rh.by
(8-033)
66-719-77

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра Н, 2006 г.в., універсал, сіні, у выдатным стане. Прабег 214 тыс. км. Т. (8-029) 9882697.

• ВАЗ-21 Ніва, аб'ём 1,7, 1996 г.в. Т. (8-029) 6809646.

• Сітраэн ZX, 1993 г.в., бензін 1,4. Т. А1 (8-044) 4522441.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Еўрарамонт. Цана дамоўная. Т. (8025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра з мэбляй і тэхнікай у Маладзечне, 77/45,3/9,5 кв.м, прасторная, светлая, свежы рамонт. Т. (8-029) 5531397.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Зруб. Т. (8-044) 4781305.*

• Участак 0,25 га са старым домам у в. Маліноўшчына Маладзечанскага раёна, вул. Лясная, 22. Т. (8-044) 4861632.*

• Дом у вёсцы Селівонаўка. Тэрмінова. Альбо памяняю на 1-пакаёвую кватэру. Т. (8-033) 6629014.

• Дом 9х12 на вываз. Крывічы Мядзельскі раён, вул. 17 Верасня, дом 53. Яўген.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека да 3т. Маладзечна, РБ. ІП Вайшнаровіч А.З. УНП 692248968 Т. (8-029) 7775442.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Анoп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Узворванне. Культывацыя. Выдаленне бульбоўніку. Уборка бульбы КТН-2В. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Работа са шклом (стэкольные работы). Дастаўка, нарэзка, устаноўка шкла і люстэрак. ІП Ціханові П.П. УНП 691506875 Т. (8-029) 9512185, (8-033) 3293993.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*



**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Піяніна, а/г Шылавічы. Т. (8-029) 2729557.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабан-вытворца, 1,5 год, патомства ад 16-24 шт. парасят (Ландрас). Т. МТС (8-029) 8581801

• Казлы, дойная каза. Т. (8-029) 3597375.*

• Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*

• Парасяты кармалаў, аўтамабіль Таёта, 1984 г.в. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапеды, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі на пастаянную работу патрабуюцца швачкі (брыгада). ТАА «МісСью» УНП 691888958 Т. (8-029) 3482283.*

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў (замена старых бярвенняў), рамонт падмуркаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*



**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**



**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04** (тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |



# Маёмасныя падаткі варта сплаціць да 16 лістапада

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне нагадвае, што апошні дзень выплаты зямельнага падатку і падатку на нерухомасць, арэнднай платы за зямлю – 16 лістапада бягучага года.**

МАЛАДЗЕЧНА

Да гэтага часу трэба заплаціць падатак уладальнікам індывідуальных домаўладанняў, двух і больш жылых памяшканняў у шматкватэрных і блакіраваных дамах, надворных пабудоў, гаражоў, іншых будынкаў, машынамесцаў, зямельных участкаў, прынятых у спадчыну, аддадзеных ва ўласнасць, пажыццёвае спадчыннае валоданне альбо карыстанне, у арэнду. Выключэнне робіцца для асоб, якія маюць права на льготу.

Сумы падаткаў, добраахвотна нявыплачаныя ў бюджэт, спаганяюцца прымусова. За кожны каляндарны дзень пратэрміноўкі налічваецца пеня.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць, звярнуўшыся ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па месцы знаходжання маёмасці.

ІМПЗ па Маладзечанскім раёне звяртае ўвагу, што плаціць падаткі можна ўжо цяпер, не чакаючы ўстаноўленага тэрміну і любым зручным для плацельшчыка спосабам:

- шляхам унясення належных сум падатку наяўнымі грашыма ў банк альбо апаратару паштовай сувязі;
- праз інтэрнэт-банкінг;
- праз электронны сэрвіс «Асабісты кабінет фізічнай асобы»;
- праз інфакіёскі.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне.**




## Чыгунка – зона павышанай небяспекі

**Паважаныя чытачы! Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі, дзе галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным провадзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць людзі, якія, гледзячы на плакаты, што прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё роўна працягваюць іх парушаць. Больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючы, што, у канчатковым выніку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу ва ўмовах развіцця высакахуткаснага руху. Бо дзеці не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы існуючай забаронай, некаторыя з іх самастойна знаходзяцца на чыгуначных пуцях, чапляючыся за аўтасчэпкі і падножкі вагонаў. Свавольства не застаецца непакараным, дзеці атрымліваюць траўмы рознай цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

З пачатку 2020 года па Маладзечанскай дыстанцыі пуці былі два выпадкі траўмавання грамадзян на чыгуначных пуцях:

у маі на перагоне Маладзечна-Уша цягнік наехаў на жанчыну, якая выйшла на чыгуначныя пуці з-за апоры кантактнага провада ва неўстаноўленым месцы;

у чэрвені на перагоне Ратамка-Крыжоўка была траўмаваная жанчына, якая выйшла на чыгуначныя пуці з-за апоры кантактнага провада ва неўстаноўленым месцы.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся па прычыне незахавання правілаў знаходжання на чыгуначных пуцях і ўласнай безадказнасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях, а таксама пераход пуцей ва неўстаноўленым месцы.

Аналіз няшчасных выпадкаў з грамадзянамі, не звязанымі з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай, і гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і якія жывуць каля чыгункі.

### Правілы бяспечных паводзін на чыгуначным транспарце:

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваны ўказальнікі «Пераход праз пуці».
2. Перад пераходам праз пуці па пешаходным насціле пераканайцеся ў адсутнасці рухомага цягніка, лакаматыва, вагонаў.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, ідзіце далей.
4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаума. Пераходзіць пуці можна толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці пуці, неабходна пераканацца, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў або вагон.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

**Забараняецца:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад цягніком, які ўжо блізка, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка па сустрэчнаму кірунку.
4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.
5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі для праходу праз пуці.
6. На электрыфікаваных участках набліжацца да неабгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ПЛ), падымацца на электраапоры.
7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за 8 метраў.
8. Праходзіць уздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за 5 метраў ад крайняй рэйкі.
9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.
10. Ездзіць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.
11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў на хаду цягніка.
12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.
13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.
14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.
15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунэлях, якія не прызначаны для пераходу пешаходаў.
16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку;
17. Пакідаць без нагляду дзяцей на пасадачных платформах і ў вагонах.
18. Перавозіць у вагонах лёгказагаральныя і выбуховыя рэчывы.
19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва не ўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам Вам усім пажадаць здароўя, і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгунцы, не падвяргалі сваё жыццё і тых, хто побач, небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту. Дзякуй!

**З павагай, начальнік Маладзечанскай дыстанцыі пуці С.Л.МАТРАШЫЛА.**

УНП 600 199 567

Падчас экскурсіі па Маладзечне. Сярод удзельнікаў былі і сем'і з дзецьмі.

# Экскурсія па Маладзечне прайшла пад наглядам міліцыі

**У апошні дзень лета экскурсаводы-валанцёры Іна Высоцкая і Ірына Багамолава правялі экскурсію па Маладзечне. Сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. Былі сем'і з дзецьмі.**

На Цэнтральнай плошчы прыгадалі, што ў 1944-1960 гадах была Маладзечанская вобласць. Менавіта для абласнога цэнтра і будавалася плошча. У будынках у цэнтры горада павінна была размясціцца абласная адміністрацыя. У часы Маладзечанскай вобласці з'явіўся абласны драмтэатр і тэатр лялек «Батлейка».

Экскурсаводы нагадалі, што на месцы сённяшняга фантана «Папараць-кветка» падчас кіравання горадам **Генадзя Карпенкі** ўсталявалі помнік «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». У 2011 годзе помнік перанеслі ў кут парку ў Зялёны гарадок.

**– А ў 2013 годзе гарадскія ўлады прыбралі помнік з вачэй углыб парку, дзе ён стаіць і цяпер, – нагадала Іна Высоцкая.**

Ля Мінскага абласнога краязнаўчага музея згадалі гісторыка, навукоўца і пісьменніка **Генадзя Каханоўскага**. Прыйшлі да думкі, што мемарыяльная дошка ў гонар гэтага чалавека павінна з'явіцца ў горадзе, як і дошка ў гонар **Генадзя Карпенкі**.

Дзякуючы Генадзю Каханоўскаму, які быў спачатку супрацоўнікам, а потым дырэктарам музея, у фондах ёсць шмат каштоўных артэфактаў, у тым ліку знакаміты слуцкі пояс.

**Каханоўскі адкрыў і фальварак Ракуцёўшчына – як месца адпачынку паэта Максіма Багдановіча.**

З-за сваёй пазіцыі навукоўцу не заўсёды было лёгка працаваць у савецкія часы. Адну з сабраных ім экспазіцый аб'явілі антысавецкай, хацелі зняць яго з пасады. Але заступіліся вядомыя беларускія пісьменнікі, у тым ліку **Янка Брыль**.

**Тут жа, са слоў экскурсаводаў, удзельнікі экскурсіі даведаліся, што на месцы вядомага Шталага-342 у Маладзечне быў дулаг – перасыльны лагер часоў Другой сусветнай.**

Стары будынак з мемарыяльнай дошкай на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Лібава-Роменскай узводзілі прыкладна ў адзін час з чыгункай (канец 19 – пачатак 20 стагоддзя). Спачатку пабудавалі два паверхі, пазней дабудоўвалі трэці.

Мемарыяльная дошка адсылае нас да падзей Першай сусветнай. Дарэчы, у 10-й арміі Заходняга фронту, савет якой месціўся ў гэтым будынку, служыў інтэндантам будучы тэатральны дзеяч **Ігнат Буйніцкі**. Штаб гэтай арміі, па словах экскурсаводаў, месціўся ў раёне цяперашняй Бухаўшчыны.

Удзельнікі экскурсіі наведалі таксама чыгуначны вакзал, памятны знак у гонар гісторыка **Міколы Ермаловіча**, пабылі ля дома, дзе жыла **Ядвіга Раздзялоўская**, і даведаліся пра жыццё і творчасць мастачкі.

**На працягу ўсёй экскурсіі ўдзельнікаў суправаджала міліцэйская машына.**

Экскурсаводы адзначылі, што першы раз працуюць пад наглядам міліцыі.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Фатографа з Крэва пазбавілі акрэдытацыі

Пра тое, што фатографа Agence France-Presse, жыхара Крэва Сяргея Гапона пазбавілі акрэдытацыі, паведамляе тэлеграм-канал Радыё Свабода. Акрэдытацыі таксама пазбаўленыя яшчэ некаторыя фатографы і журналісты.

Сяргей пацвердзіў інфармацыю карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты». Нагадаем, што фатограф Сяргей Гапон жыве ў Крэве, ладзіць прыборкі на старажытных яўрэйскіх могілках, увасабляе амбітныя праекты па аднаўленні мястэчка. Адзін з нядаўніх – выстава фотаздымкаў ля сцен Крэўскага замка.

Agence France-Presse – французскае інфармацыйнае агенцтва. Старэйшае ў свеце.

**Аддзел інфармацыі.**

## Калі збіраць брусніцы і журавіны. Устанавілі тэрміны збору ягад

Брусніцы ў лясах Міншчыны ўжо можна збіраць. А з журавінамі трэба пачакаць да 4 верасня, паведамляюць у Вілейскім доследным лясгасе.

Згодна з рашэннем Мінскага абласнога выканаўчага камітэта ад 28 ліпеня №622, устаноўленыя тэрміны нарыхтоўкі брусніц у Мінскай вобласці пачаліся 12 жніўня, журавіны можна збіраць ад 4 верасня.

**Аддзел інфармацыі.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Дарыян Грэй»



Фота kinopoisk.ru.

**«Дарыян Грэй» – мастацкая кінакарціна рэжысёра Олівера Паркера, знятая па матывах рамана Оскара Уайльда «Партрэт Дарыяна Грэя». Сцэнарый фільма напісаў Тобі Фінлэй, які ўвогуле быў яго першым сцэнарыем. Галоўныя ролі выканалі Бэн Барнс у вобразе самога Грэя і Колін Фёрт у вобразе лорда Генры Уотана. Гэта 28-я экранізацыя рамана Оскара Уайльда.**

Слоган фільма: «Маладыя назаўжды. Пракляты навекі».

### Сюжэт

Экранізацыя Оскара Уайльда аб знешняй прыгажосці і душэўнай пачварнасці, аб спакусах, заганах і непазбежнай расплаце. Фільм не з'яўляецца строгім увасабленнем рамана: ён больш шчыры і імклівы, шмат у чым адаптаваны пад сучаснага гледача.

Прыгожы, юны і яшчэ не дасведчаны ў жыцці Дарыян Грэй прыязджае ў Лондан, горад спакус. Стары сябар і таленавіты мастак піша яго партрэт. Разглядаючы ўласныя рысы, Дарыян зайздросціць партрэту: карціне не прыйдзецца старэць і марнець, а дзеля вечнай прыгажосці не шкада аддаць душу.

Падобна на тое, што д'ябал чуе ягоныя словы і накладвае чары на карціну. З гэтага часу на палатне, а не на скуры, будуць з'яўляцца маршчыны, сляды «брудных хвароб», злыя цені і чужая кроў. Беспакарана юнак пачне грузнуць у свеце спакус, злачынстваў, хлусні. Пройдуць гады, перш чым ён сустрэне Эмілі, дачку свайго былога «настаўніка», і адчуе нешта, пранікальнае глыбей скуры, – да знявечанага сэрца.

### Здымкі фільма

Здымкі фільма пачаліся ўлетку 2008 года на Ealing Studios і ў розных частках Лондана і скончыліся ў кастрычніку. Прэм'ерскі фонд Брытанскага савета па кінематаграфіі прапанаваў стваральнікам фільма 500 тысяч фунтаў, узятых з фонду Нацыянальнай латарэі.

### Водгукі крытыкаў

Фільм атрымаў неадназначныя водгукі. Па стане на чэрвень 2020 года фільм мае рэйтынг адабрэння 44% на вэбсайце аглядаў фільмаў Rotten Tomatoes. Крытычны кансэнсус сайта сцвярджае: «Нягледзячы на шчодрую і паліраваную пастаноўку, Дарыян Грэй штучны і ён не натхняе з-за Бэна Барнса ў галоўнай ролі».

### Цікавосткі

Бэн Барнс і Колін Фёрт раней разам сыгралі яшчэ ў адным фільме, які называецца «Лёгкія паводзіны».

На плакаце да фільма ў Дарыяна Грэя блакітныя вочы, аднак у стужцы ў галоўнага героя карыя вочы. У кніжцы Оскара Уайльда Дарыян Грэй бландзін, а ў фільме – брунет.

Галоўную жаночую ролю выканала Рэбека Хол. Яна ўпершыню з'явілася ў фільме на 72-й хвіліне.

Рэжысёр Олівер Паркер не ўпершыню працаваў над адаптацыямі твораў Оскара Уайльда. Ён зняў «Ідэальны муж» і «Як важна быць сур'ёзным».

У кнізе Дарыян Грэй не спрабуе забіць лорда Генры. Сібіл Вэйн па Уайльду заканчвае жыццё самагубствам – прымае яд, а ў кінаадаптацыі – тоне.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.45, 21.05, 1.20, 17.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.50** «Мульт-парад».
**7.30, 15.50, 17.40, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.25, 19.50** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.00** «Документальный экран».
**10.30** «Смотрим всей семьей»: «Гарри Поттер и Кубок огня».
**12.50, 17.50** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.00** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**16.20** Х/ф **«ЛОВИ МОМЕНТ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«47 РОНИНОВ».**
**23.10** Х/ф **«ИМЯ РОЗЫ».**

**ВТОРНИК, 8 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.25, 21.10, 0.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.30** «Мульт-парад».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**9.00, 19.10** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**9.45** «Документальный экран».
**10.30** Х/ф **«47 РОНИНОВ».**
**12.30, 17.45** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.00** Т/с **«СТАРАЯ ОДЕССА».**
**15.40** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.05** Х/ф **«ОСЕННИЙ МАРАФОН».**
**17.40** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ГОСУДАРЬ».**
**23.15** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**СРЕДА, 9 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.10** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.30** Д/ф «ГЛОБАЛЬНОЕ ПОТЕПЛЕНИЕ И УГРОЗА МИРУ».
**11.00** Х/ф **«ГОСУДАРЬ».**
**13.00, 17.45** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.25** Т/с **«СТАРАЯ ОДЕССА».**
**16.10** Х/ф **«ЗИМНИЙ ВЕЧЕР В ГАГРАХ».**
**17.40** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ТАНЦУЙ СЕРДЦЕМ».**
**23.00** Х/ф **«РЫЦАРИ НЕБА».**
**0.40** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**ЧЕТВЕРГ, 10 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.35, 21.10, 1.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.45** «Мульт-парад».
**7.30, 15.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.30, 19.10** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.05** «Документальный экран».
**10.40** Х/ф **«ЭВЕРЕСТ».**
**12.40, 17.40** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.05** Т/с **«СТАРАЯ ОДЕССА».**
**15.55** Х/ф **«ЦАРЕУБИЙЦА».**
**19.05** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КАРАТЕЛЬ».**
**0.05** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**ПЯТНИЦА, 11 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.05** Х/ф **«КАРАТЕЛЬ».**
**13.00, 17.35** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.25** Т/с **«СТАРАЯ ОДЕССА».**
**16.10** Х/ф **«САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«СПЕКТР 007».**
**23.45** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**СУББОТА, 12 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 14.55, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Дюймовочка».
**8.30** «Приколы 13-й школы».
**8.35** Х/ф **«БЕЛЫЙ БИМ ЧЕРНОЕ УХО».**
**11.30** Х/ф **«ГЕМИНИ».**
**13.25** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНОЕ НЕБО».**
**15.00** «Смотрим всей семьей»: «Гарри Поттер и Орден Феникса».
**17.10** Х/ф **«ЭБИГЕЙЛ».**
**19.00, 2.35** «Погода».
**19.05** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«ТЫ МОЕ СОМНЕНИЕ».**
**23.05** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**1.15** Мультфильмы «Месть скорпиона».

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 13.30, 16.20, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.30, 16.15** «Приколы 13-й школы».
**8.35** «Готовь как шеф».
**9.00** Х/ф **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК».**
**11.15** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**13.35** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**16.25** «Детектив на экране»: «Самурай».
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**18.55, 1.05** «Погода».
**19.00** Х/ф **«ЭТО ЧЕРТОВО СЕРДЦЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ШПИОНСКИЕ ИГРЫ».**
**23.20** Х/ф **«АМЕРИКАНСКИЙ ОБОРОТЕНЬ В ПАРИЖЕ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС».**
**10.00** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ ДА».**
**13.00** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**14.30** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.00** Х/ф **«ВАСАБИ».**
**17.40** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** На вячорки да Фядоркі.
**20.15** Х/ф **«АГЕНТ 117. МИССИЯ В РИО».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 8 СЕНТЯБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.25** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**12.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**13.50** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС. ИГРА ТЕНЕЙ».**
**15.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**17.50, 22.15** Мажорный лад.
**19.15** Протокол.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«СЕМЬ УЖИНОВ».**

**СРЕДА, 9 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Фрагменты истории.
**7.20** Протокол.
**8.15** А знаете ли вы?
**10.00** Х/ф **«САДКО».**
**13.00** Х/ф **«РОБИН ГУД».**
**16.40** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ».**
**19.15** Мастерство и фантазия.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 10 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Следопыт.
**8.15** Х/ф **«СЕМЬЯ УЖИНОВ».**
**9.50** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**12.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**13.45** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА».**
**16.00** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ РЕМОНТ».**
**18.25** Новости БЖД.
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Протокол.
**20.15** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 11 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Фрагменты истории.
**8.15** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА».**
**9.50** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ».**
**12.05** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**15.40** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**18.35** Новости БЖД.
**19.15** На помощь приходят… Ангелы.
**20.15** Х/ф **«ХОДЯТ СЛУХИ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СУББОТА, 12 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.30** Протокол.
**8.40** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**10.35** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**11.55** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**13.25** Х/ф **«МАМЫ».**
**15.50** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ».**
**19.15** На вячорки да Фядоркі.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Новости БЖД.
**22.15** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**
**10.00** Х/ф **«ШОПО-КОП».**
**11.25** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И ШАМАХАНСКАЯ ЦАРИЦА».**
**13.20** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ?».**
**14.55** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**16.15** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**17.50** Х/ф **«СТАТУС: СВОБОДЕН».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**

## Беларусь 1

**6.35, 16.40, 19.10** Х/ф **«СЛИШКОМ КРАСИВАЯ ЖЕНА».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.25** Зона Х. Итоги недели.

**11.05** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«В ТЕСНОТЕ, ДА НЕ В ОБИДЕ».**

**14.30** Маршрут построен.

**15.15** Поколение.by.

**15.35** Один день.

**16.05** Судьба гигантов.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«УПРАВДОМША».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.20, 19.45** Телебарометр.

**9.25** «Суперженa». Реалити-шоу.

**10.15** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.00** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**11.55** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**12.40** Х/ф **«ЗЕМЛЯ БУДУЩЕГО».**

**14.45** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.00** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.50** Х/ф **«БОЕЦ».**

**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«СОТНИ УЛИЦ».**

**22.50** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**23.45** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.05, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 14.25** «Гэты дзень».

**8.25** «Па запалкі». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Капусныя бліны і кіслая капуста з просам.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Дняпроўскі рубеж». Мастацкі фільм [СТ].

**14.30** «Камертон». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Антон Заянчкоўскі.

**14.55 Т/ф «СОФ'Я ГАЛЬШАНСКАЯ».**

**16.45** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**17.00** Канцэрт «Славянскі базар у Віцебску-2018».

**17.50** «Лёгкае жыццё». Мастацкі фільм.

**19.25** «Кадры жыцця». Сцэнарыст, рэжысёр Алена Турава.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Джэк Васьмёркін — «амерыканец». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«НЕВЕСТА МОЕГО ДРУГА».**

**11.35** «Видели видео?».

**12.50** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**13.55** К 90-летию Надежды Румянцевой. «Одна из девчат».

**14.35** Х/ф **«КОРОЛЕВА БЕНЗОКОЛОНКИ».**

**16.20, 23.40** Х/ф **«ИЩИТЕ МАМУ».**

**18.15** «Три аккорда». Финал.

**20.00** «Контуры».

**21.20** Музыкальный фестиваль «Белые ночи». Золотые хиты.

**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».

## СТВ

**6.35, 0.00** «Эликсир молодости».

**8.20, 11.00, 20.50** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.45, 13.40, 16.40** Т/с **«ВСКРЫТИЕ ПОКАЖЕТ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ТАНЦУЙ, ТАНЦУЙ».**

**6.15** Х/ф **«ЛЮБИМЫЙ РАДЖА».**

**8.50** «Наше кино. Неувядающие». Андрей Петров. Оригинал.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ЛЮБОПЫТНАЯ ВАРВАРА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**20.30, 1.00** Т/с **«ШТРАФНИК».**

## НТВ-Беларусь

**6.20** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «50 рецептов первого».

**7.25** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.15** «Их нравы».

**8.35** «24 вопроса».

**9.05** «Беларусы».

**9.30** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.45** «Чудо техники».

**11.30** «Дачный ответ».

**12.20** «НашПотребНадзор».

**13.15** «Поедем, поедим!».

**14.00** «Истории спасения».

**14.25** Х/ф **«ТАНЦЫ МАРИОНЕТОК».**

**16.15** Премьера. НТВ-видение. «Детские товары».

**16.45** «Следствие вели…».

**18.05** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.20** «Ты не поверишь!».

**22.10** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«НАКАЗАНИЕ БЕЗ ПРЕСТУПЛЕНИЯ».**

**10.25** «Устами младенца».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.15** Х/ф **«НИ ЗА ЧТО НЕ СДАМСЯ».**

**14.30** Х/ф **«ТЫ МОЙ СВЕТ».**

**16.15** Х/ф **«ДВА БЕРЕГА НАДЕЖДЫ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.25** Х/ф **«В ПЛЕНУ ОБМАНА».**

**23.00** «В людях».

**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.10** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.20** Приключения Паддингтона. **8.00** Приключения Паддингтона 2. **9.45** Робин Гуд: Принц воров. **12.15** Маска Зорро. **14.45** Легенда Зорро. **17.05** С любовью, Рози. **19.00** Реальная любовь. **21.25** Ешь, молись, люби. **23.55, 5.00** Любимцы Америки. **1.40** Очень плохие мамочки 2. **3.15** Другие.

### TV1000 ACTION

**7.40** Железный рыцарь. **9.40** Коломбиана. **11.30** Полиция Майами: Отдел нравов. **13.40** Шанхайский перевозчик. **15.20** Мистер и миссис Смит. **17.25** Телепорт. **19.00, 5.10** Мальчики-налётчики. **20.50** Гнев. **23.20** Не пойман, не вор. **1.30** Отчаянный. **3.20** Однажды в Мексике.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.05** Тарас Бульба. **8.30** Ехали два шофёра. **9.55** Одноклассницы. **11.15** Одноклассницы: Новый поворот. **12.35** О чём молчат девушки. **14.05** Бабушка лёгкого поведения. **15.35** Бабушка лёгкого поведения 2. Престарелые мстители. **17.10** СуперБобровы. **19.00** СуперБобровы. Народные мстители. **20.35** Стиляги. **23.00** Одесса. **1.15** Юморист. **2.45** Домовой. **4.20** Глухарь в кино.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.15** «Рисуем сказки». **9.30** «Новый день». **10.00** «Погоня за вкусом». **11.00** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ: МЕСТЬ». 13.00** Х/ф **«БОЙСЯ СВОИХ ЖЕЛАНИЙ». 15.00** Х/ф **«ТЕЛЕКИНЕЗ». 17.00** Х/ф **«ПОЛТЕРГЕЙСТ». 19.00** Х/ф **«УИДЖИ: ДОСКА ДЬЯВОЛА». 20.45** Х/ф **«УИДЖИ: ПРОКЛЯТИЕ ДОСКИ ДЬЯВОЛА». 22.45** Х/ф **«МАМА». 0.45** Х/ф **«НЕ ДЫШИ». 2.15** Х/ф **«НЕ БОЙСЯ». 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ТАНЦЫ НА УГЛЯХ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ОДНА ТЕНЬ НА ДВОИХ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«ЁЛКИ 1914». 3.35** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 5.15** Х/ф **«СУПЕРСТАР». 7.00** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА». 8.45** Х/ф **«БОСИКОМ ПО ГОРОДУ». 10.25** Х/ф **«ЭТО ВСЕ ОНА». 12.15** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ». 14.05** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ». 15.55** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 17.35** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НЕ ПО РАЗМЕРУ». 19.30** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ». 21.05** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 22.50** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.15, 1.20, 2.25, 3.40, 4.35, 5.40, 6.50** Т/с **«ИСТОКИ». 7.55, 8.55, 9.55, 10.55, 12.00, 12.55** Т/с **«РАЗВЕДЧИЦЫ». 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05** Т/с **«ВТОРОЕ ЗРЕНИЕ». 22.05, 23.05** Т/с **«ВЛАСТЬ ГОСПОДИНА МИЛЛЕРА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Приключения «СМУРФИКИ». **14.35** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА». 16.35** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2». 19.00** Х/ф **«КИН». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.20** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **23.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **1.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **1.35** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Азбука спорта. **7.10** Теннис. WTA. Стамбул. 1/2 финала. **9.15** Тренировочный день. **9.45** Футбол. Чемпионат Англии. 1-й тур. **11.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Столица — Минск. **13.50** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 23-й тур. РЦОР-БГУ — Слуцк. **15.55** Вот это спорт! **16.10** Пит-стоп. **16.40, 19.15** Спорт-центр. **16.50** Хоккей. КХЛ. Спартак — Динамо-Минск. В перерывах Спорт-центр. **19.25** Футбол. Чемпионат Англии. 1-й тур. 2-й тайм. **20.25** Теннис. WTA. Стамбул. Финал. **22.30** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.15** Киберспорт. Автоспорт. W-серия.

### EUROSPORT

**2.00, 7.30, 12.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 14-й этап. **4.00, 9.30, 18.45** Теннис. US Open. Женщины. Финал. **6.00** Автогонки. WTCR-2019. Обзор сезона. **7.00, 10.30** Автогонки. WTCR. Австрия. Квалификация. **11.00** Автогонки. WTCR. Австрия. Первая гонка. **13.20** Велоспорт. «Тур де Франс». 15-й этап. **20.00, 21.30** Теннис. US Open. Мужчины. 1/2 финала. **22.45** Теннис. US Open. Мужчины. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 10.05** Советы для каждого. **6.30, 14.20, 18.15, 1.00** Испытание на прочность. **6.55, 18.45** За рулем каждый день. **7.20, 12.20, 20.05, 23.15, 3.30** Авто: вторые руки. **7.35, 9.45, 13.45, 17.40, 19.15, 23.35, 1.35, 3.45** Итоговые новости. **7.50, 15.10, 2.05** Тест на «Драйве». **8.20** Советы юриста. **10.35** Тест с дядей Ваней. **10.55** Мотогараж. **11.30** Мото тест-драйв. **11.45, 19.35, 22.45, 3.00** Кругосветка по бездорожью. **12.35** Автолайф. **12.55, 20.20, 23.50, 4.05** Трасса А2. **14.00, 0.40** Проверка на дороге. **14.55, 1.50** Вторичка. **15.45** Обновление. **15.55, 2.35** Сити-тестер. **16.25, 21.10** Возвращение легенды. **16.55** Байки про байки. **17.55, 22.25** Хорошо забытое. **21.40, 5.20** Вечер с Пикуленко. **4.50** 9 злобных водителей.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.35** Речные чудовища. **9.25** Могучие реки. **10.15, 10.45, 22.00, 22.25** Нефритовая лихорадка. **11.10** Строительство гигантов. **11.55, 21.15** Поисковая команда в Австралии. **12.40, 13.30, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.40** Австралийские охотники на лобстеров. **0.25, 1.10, 1.55, 2.40, 3.25, 4.10** Деревенский дом. **4.55** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.00, 5.30** Невероятные изобретения. **6.25, 7.10, 7.55, 8.45, 9.30, 3.10, 3.55, 4.45** Музейные тайны. **10.15, 11.05** Мифические существа. **11.55, 12.45** Расшифрованные сокровища. **13.40** Последние часы Помпеев: новые загадки. **14.35, 15.20** В поисках «Восточного экспресса». **16.10** День, когда умер Кеннеди. **17.05** Древние небеса. **18.05** Бомбардировка Дарвина: неприятная правда. **19.10** Боевые корабли. **20.00** Китай. Тайны Запретного города. **21.00** Новые тайны терракотовых воинов. **21.45** Хит-парад военной техники. **22.40** Оружейники: искусство войны. **23.30, 0.15** Могилы викингов. **1.05, 2.10** История христианства.

### NATURE

**6.00, 3.15** Уличный ветеринар. **6.30, 7.20, 8.15, 22.25, 23.15** Выживание в дикой природе. **9.05, 9.55, 10.45** Удивительное семейство псовых. **11.40, 12.30** Уэльс: дикая земля. **13.25, 14.10** Великая миграция. **15.00, 21.20** Нил: величайшая из рек. **16.05, 16.55** Бескрайняя Африка. **17.50** Великая рифтовая долина — дикое сердце Африки. **18.40** Тайная жизнь слонов. **19.35, 20.25** Эпический Йеллоустоун. **0.05** Невероятные встречи с животными. **0.55** Хищные питомцы. **1.45, 5.00** Мутации погоды. **2.30** Ветеринар из Йоркшира. **3.45, 4.10, 4.35** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.30** Научные глупости. **7.00, 5.35** Игры разума. **7.25, 2.00, 2.45** Авто-SOS. **8.15, 4.55** Настоящий суперкар. **9.05, 9.55** Экстремальный экспресс. **10.45, 11.35, 12.30** Затерянные города с Альбертом Лином. **13.20, 14.10, 15.00** Международный аэропорт Дубай. **15.55, 16.20, 16.45, 17.10, 3.30, 3.50, 4.15, 4.35** Сделать за один день. **17.35, 18.30** Расследование авиакатастроф. **19.20, 20.10** Инстинкт выживания. **21.00** Путешествия с Гордоном Рамзи 2. **21.50, 0.25, 1.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **22.40** Инстинкт выживания 4. **23.35** Инстинкт выживания, Китай.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50** Рыболовы. **7.25, 15.25, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.55, 4.10** Рыболовная Россия. **8.25, 12.25, 0.30, 4.40** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **8.55, 12.55, 16.55, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.25, 1.30, 5.35** Донка против фидера. **11.25, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **14.50, 18.55** Рыбалка в России. **15.55, 20.00** Рыбалка 360. **16.25, 20.30** Егерский кордон. **17.30, 21.35, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.00** Андрей Старков и его команда. **2.55** Дед Мазай и зайцы.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.05, 22.00, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.40, 18.35, 22.30, 2.40** Деревянная Россия. **6.55, 11.10, 15.05, 19.05, 23.00, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Милости просим. **8.00, 12.15, 16.10, 20.05, 0.00, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.25, 20.25, 0.20, 4.35** Забытые ремесла. **8.35, 12.50, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Семейный обед. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.35, 17.35, 21.30, 1.25, 5.35** ТОП-10. **14.40** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **1.55** Готовим на природе.

# Чым жыла Вілейшчына ў канцы 19 стагоддзя

## Гартаем старонкі газеты Słowo

ВІЛЕЙКА

**Прапануем вам даведацца, пра якія падзеі ў Вілейцы пісала газета Słowo ў другой палове 19 стагоддзя. Матэрыялы мы ўзялі ў актывістаў Таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Хто б мог падумаць, што нейкія паўтара стагоддзя таму на Вілейшчыне кралі коней і бялізну з бальніцы.

### Як у 19 стагоддзі кралі бялізну ў вілейскай бальніцы

Słowo, №248 ад 7 лістапада 1885 года: «У нашым маленькім гарадку паўтарылася адно з самых распаўсюджаных і вельмі сумных здарэнняў. Дзякуючы выпадку, у мястэчковай бальніцы заўважылі шматлікія злоўжыванні, якія кампраметуюць прадстаўнікоў мясцовай улады і вартаўніка бальніцы.

**Падчас рэвізіі ў аднаго чалавека, падазраванага ў крадзяжы, замест шуканага знайшлі цэлы пачак бялізны з бальнічнай пячаткай.**

Пасцель, па словах падазраванага яўрэя, яму прадаў адзін з членаў гарадскога савета. У мястэчковай бальніцы правялі рэвізію, тады і заўважылі шматлікія недакладнасці ў рэестры і адсутнасць многіх прадметаў. Спачатку справу хацелі замяць. Аднак агалоска, якую атрымаў гэты інцыдэнт, прымусіла даць яму афіцыйны ход. Грамадскую думку гэта моцна ўсхвалявала.

Праз некалькі дзён аддзел Віленскага акруговага суда пачне кадэнцыю ў Вілейцы. Грамадскасць праяўляе вялікую цікавасць да справы Эйсена, лідара банды рабаўнікоў, якога асудзілі падчас майскіх сесій. Ён зноў з'явіцца за судовымі кратамі. Была раскрытая новая серыя яго злачынстваў».

### Чаму старыя бровары на Вілейшчыне з трывогай чакалі праверкі

Słowo, №281 ад 17 студзеня 1885 года: «З часоў, калі губернскага тэхніка прызначылі ўрадам для агляду ўсіх фабрык у мэтах бяспекі, бровары старой канструкцыі з трывогай чакаюць яго візіту. Ужо было некалькі выпадкаў, калі падчас экспертызы дрэнна абсталяваныя паравыя катлы ўзрываліся пад ціскам у дзве атмасферы. У адным з нашых мястэчак паўтарылася тая ж гісторыя. Дражджавы бровар, збудаваны ўсяго пару гадоў таму яўрэямі-гандлярамі, не даваў спакою іншым гандлярам, якія прадавалі спірт.

Таму яны данеслі тэхніку, што дадзеная вытворчасць уяўляе небяспеку для людзей, якія працуюць там. Тэхнік прыбыў неадкладна. Паравы кацёл не вытрымаў экспертызы і лопнуў. Бровар прыйшлося зачыніць з вялікімі стратамі для фабрыкантаў.

**Пройдзе шмат часу, перш чым яны змогуць купіць новы кацёл. Канкурэнты не грэбуюць ніякімі сродкамі.**

Тэхнік па-ранейшаму атрымлівае тысячы падобных данясенняў з мэтай нашкодзіць іншым і паралізаваць іх вытворчасць, і ён амаль не ў стане справіцца са сваёй задачай. У пэўным сэнсе гэта характарызуе нашы гандлёвыя і фабрычныя ўзаемаадносіны».

### Паны рызыкавалі абанкруціцца з-за дажджлівага надвор'я

Słowo, №221 ад 7 кастрычніка 1885 года: «Лета і восень гэтага года дажджлівыя. Бесперапынныя дажджы не дазваляюць сабраць рэшткі ўраджаю з палёў. Сабраны авёс, паўторна скошаная канюшына і кармавыя гніюць у полі.

З уборкай бульбы праблем не менш. Некаторым сядзібам даводзіцца зусім туга. Пэўныя гатункі бульбы яшчэ не згнілі, нягледзячы на вільготнасць. Працэс разлажэння, верагодна, будзе адбывацца цяпер.

Апошнія два тыдні дажджы льюць – як з вядра. Некалькі дзён таму на пару цаляў выпаў снег і праляжаў цэлы дзень. На палях балота па шчыкалатку. Коні і валы грузнуць у зямлі. Араць у многіх месцах немагчыма. На лугах разліліся сажалкі. Дарогі разбураныя.

А яшчэ вельмі складана знайсці працаўнікоў. Сяляне занятыя сваёй гаспадаркай, ды і дажджы і холад гоняць людзей з палёў. У параўнанні з цэнамі на любы сельскагаспадарчы прадукт, цана работніка ў цяперашні час вельмі высокая.

Паны ў роспачы. Жыта каштуе каля 62 капеек, ячмень – 60, авёс – 50. А пакупнікоў няма. Збожжа прарасло, выглядае вельмі непрывабна. Цэны на скаціну неверагодна нізкія. Адсутнасць зімовых кармоў прымушае ўсіх прадаваць свойскую жывёлу. За пуд добрага мяса цяпер плацім адзін рубель. Інтарэсы паноў вельмі церпяць. Чакаюцца шматлікія выпадкі банкруцтва».

### У 1886 годзе выгараў амаль увесь Куранец

Słowo, №163 ад 26 ліпеня 1886 года: «Жахлівы пажар абрынуўся на адно з нашых найбуйнейшых мястэчак, Куранец, тыдзень таму. З некалькіх сотняў дамоў ацалела толькі некалькі дзясяткаў, і тое дзякуючы выпадку. Амаль ніякай дапамогі ў тушэнні пажару не было. Агонь, гнаны моцным ветрам, за пару гадзін пакрыў усё мястэчка суцэльным полымем. Амаль нічога з рухомай маёмасці мясцовыя жыхары выратаваць не змаглі.

Яўрэі-пагарэльцы ўжо атрымалі часовую дапамогу ад сваіх адзінаверцаў, якія даслалі трохі хлеба і адзення з іншых гарадоў і мястэчак.

Страты, хоць яшчэ і не палічаныя, вельмі значныя.

### Пра канакрадаў Вілейшчыны

Słowo, №295 ад 29 снежня 1884 года: «Канакрадства, якое яшчэ год таму было для нас сапраўднай чумой, цяпер трохі сціхла. Праўда, інцыдэнты крадзяжу коней усё яшчэ паўтараюцца тут і там, але, па меншай меры, яны адбываюцца ў некалькі меншым маштабе і не так смела, як раней. Ці будзе гэта працяг вацца доўга? Магчыма, злачынцы толькі хочуць усыпіць агульную пільнасць і падштурхнуць людзей да свабоднага выпасу коней у полі.

Гэты перыяд зацішша звязваюць з турэмным зняволеннем аднаго з галоўных разбойнікаў. Праўда, турма далёка не заўсёды перашкаджае злачынцам і далей займацца сваім рамяством. Зносіны паміж зняволеным і яго бандай адбываюцца ў абыход турэмных сцен і пільнасці наглядчыкаў.

Канакрадаў, у асноўным, вярбуюць з ліку яўрэяў, старавераў і, у апошні час, нават гараджан-хрысціян з нашых невялікіх мястэчак. Адзначаліся выпадкі, калі ў канакрадстве ўдзельнічалі жанчыны. Адну з іх, яўрэйку, якая не саступала мужчынам і не толькі крала, але і трыціла коней, прыцягнулі да адказнасці.

**Банда канакрада, лідар якой цяпер знаходзіцца ў турме, дзейнічала пераважна ў Вілейскім і Барысаўскім паветах Мінскай губерні.**

Кажуць, што за мінулы год у Віленскай губерні было ўкрадзена больш за дзве тысячы коней».

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.

---

● КАЛЯНДАР

**4 ВЕРАСНЯ**

**1937.** Рэктары польскіх ВНУ вызначылі месцы для асобнага сядзення студэнтаў-яўрэяў у аўдыторыях – так званыя «лаваvыя гета».

**5 ВЕРАСНЯ**

**1984.** Нарадзіўся **Рагнед Малахоўскі**, беларускі паэт. Скончыў сярэднюю школу ў Мядзеле.



**6 ВЕРАСНЯ**

**1933.** Абмен вязнямі ў Коласаве, на савецка-польскай мяжы. **Францішка Аляхновіча** абмянялі на **Браніслава Тарашкевіча**. Аляхновіч трапляе ў Польшчу, Тарашкевіч – у Савецкі Саюз.

**1941.** Створанае Віленскае гета.

**7 ВЕРАСНЯ**

**1958.** Нарадзіўся **Віктар Ганчар**, беларускі палітык. Ад 1991 да 1994 – першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкама Генадзя Карпенкі. Бясследна знік у 1999 годзе.



**8 ВЕРАСНЯ**

**1514.** Бітва пад Оршай. Злучаныя войскі ВКЛ і польскія атрады перамаглі армію Маскоўскай дзяржавы.

**1794.** Войскі Рэчы Паспалітай пацярпелі паражэнне ў бітве пры Брэсце ад расійскіх войскаў на чале з Аляксандрам Суворавым.

**1992.** Адкрыта прадстаўніцтва ААН у Беларусі.

**9 ВЕРАСНЯ**

**1944.** Заключана дамова паміж урадам БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення пра абмен насельніцтвам. У выніку абмену ў 1944 – 1947 гадах з Беларусі ў Польшчу выехалі 27,4 тысячы чалавек, з Польшчы ў Беларусь – 36 тыс. чалавек.

**10 ВЕРАСНЯ**

**1894.** Упершыню вадзіцель аштрафаваны за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане (у Лондане).

Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.

# Калі б не выступаў на мітынгах не стаў бы міністрам

## Вялікая гутарка з Пятром Краўчанкам

**З нашым земляком, гісторыкам, навукоўцам, выкладчыкам, дыпламатам, першым Міністрам замежных спраў незалежнай Беларусі Пятром Краўчанкам гутарыць прафесар, доктар гістарычных навук Уладзімір Снапкоўскі.**



Фота з асабістага архіва Пятра Краўчанкі.

Пётр Краўчанка і Джордж Буш-старэйшы. Белы дом, красавік 1992 года.

**– Да юбілею Вы добра падрыхтаваліся, апублікаваўшы цікавыя мемуары і зборнік дакументаў аб дыпламатычнай і палітычнай дзейнасці. Ёсць пра што пагаварыць, што ўспомніць. Міністры пасля вас не пісалі ні мемуараў, ні зборнікаў. Чаму?**

– Лічу, што маё жыццё – гэта не толькі жыццё грамадзяніна Беларусі, а і жыццё дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, які не мае права нешта забываць, хаваць, нечым не дзяліцца з людзьмі. Разумеў: тое, што я рабіў, – гэта не палітыка, а гісторыя. Таму як гісторык дакументальную частку вырашыў абнародаваць, данесці да навуковай грамадскасці.

Я шмат працаваў, як з айчыннымі, так і замежнымі даследчыкамі. У апошнія гады да мяне звярталіся дзве дысертанткі з Прынстана і з Кембрыджа, якія займаліся вывучэннем знешняй палітыкі. Я іх кансультаваў. Калі ёсць запыты ад замежных і айчынных даследчыкаў, доўг дыпламатаў – падзяліцца і дапамагчы. Што датычыцца іншых міністраў, якія маглі б штосьці напісаць, то даруйце, лепш запытайце ў іх саміх.

**– Вы марылі стаць дыпламатам з юнацкіх гадоў, але рэалізавалі мару толькі ў сорак год. Праўда, без заканчэння Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін. Але пачалі адразу з міністра. У тым, што Вы не прайшлі шлях кар'ернага дыпламата, ёсць больш плюсаў, чым мінусаў. Да прыкладу, дыпламатычнай субардынацыі па прынцыпе «чаго жадаеце?» у апараце МЗС або савецкім пасольстве не навучыліся. Затое атрымалі гістарычную адукацыю, абаранілі кандыдацкую дысертацыю па гісторыі замежных сувязяў БССР, прайшлі партыйную школу. Ваша меркаванне пра плюсы і мінусы.**

– Так, я не скончыў Дыпламатычную акадэмію ў Маскве, да якой імкнуўся. Мяне не пусцілі партыйныя настаўнікі, якія лічылі, што я павінны застацца адпрацаваць у Мінску. Гэта было псіхалагічным ударам. Але праз гады зразумеў: тое, што я не стаў кар'ерным дыпламатам, – падарунак лёсу. Стаўшы Міністрам замежных спраў, я змог пераадолець усе застарэлыя формы і метады традыцыйнай савецкай дыпламатыі. Я не быў звязаны кланавай і партыйнай салідарнасцю, бо мяне абіраў першы дэмакратычны Парламент, а не прызначала Палітбюро. Я нікому нічым не быў абавязаны. Абапіраўся на досвед даследчай працы, што давала ўменне аналізаваць.

Мінусы такога шляху таксама былі. Некаторымі праблемамі, напрыклад, тэматыкай раззбраення, нельга было авалодаць хутка. Але я ўмеў слухаць і выкарыстоўваць патэнцыял сваіх калег, памочнікаў, дарадцаў. Досведам дзяліліся савецкія дыпламаты – **Пятроўскі, Варанцоў, Беланогаў.** Гэтыя людзі давалі добрыя парады. Выступленні стараўся рабіць эмацыйнымі, цытаваў беларускіх паэтаў, каб выклікаць водгук у слухачоў. І гэта атрымлівалася.

**– Наколькі Вы былі самастойным у прыняцці рашэнняў?**

– Унікальнасць сітуацыі ў тым, што ў 1990-1991 гадах я быў абсалютна самастойным у сваіх дзеяннях і нічога ні з кім не ўзгадняў. Але ў пачатку 1992 года з'явіліся складанасці, звязаныя з тым, што некаторыя пытанні я мусіў узгадняць з **Кебічам** і **Шушкевічам,** якія варагавалі адзін з адным. Таму часам я быў паміж молатам і кавадлам.

**– Ваша праца сакратаром Мінскага гаркама партыі пры абранні міністрам у ліпені 1990-га магла б быць расцэненая дэпутатамі Вярхоўнага Савета не на вашу карысць. Але тайнае галасаванне прадэманстравала велізарны крэдыт даверу да Вас. Чым гэта растлумачыць?**

– Тым, што і левыя, і правыя, і цэнтрысты пасля майго выступлення зразумелі, што перад імі – чалавек, які з першай хвіліны працы будзе адстойваць інтарэсы Беларусі.

Выступленне маё было кароткім і канкрэтным. Гэта было выступленне дзяржаўнага дзеяча, які ўсведамляе, што гатовы выканаць даручэнне парламента і займацца праблемай Чарнобыля, гатовы абараняць інтарэсы Беларусі пасля чарнобыльскай катастрофы нават да звароту ў Гаагскі суд. Зразумелі, што я гатовы прад'яўляць прэтэнзіі Міністэрству энергетыкі, якое было вінаватае перад беларусамі за Чарнобыль. Гэта было выступленне чалавека, які стаіць на пазіцыях незалежнасці, мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Відаць, таму з 340 дэпутатаў толькі каля дзесяці прагаласавала супраць.

**– Якія якасці і досвед партыйнага работніка дапамаглі ў працы міністра, якія перашкодзілі?**

– Партыйная работа – гэта работа з людзьмі. Уменне не толькі раздаваць даручэнні, а яшчэ пачуць, абдумаць і знайсці шляхі вырашэння. На партыйнай рабоце я любіў прыём грамадзян. Прыходзілі розныя людзі. Таму я ведаў жыццё, праблемы, умеў слухаць і пачуць, адрозніць праўду ад хлусні, вызначыць галоўныя і другасныя задачы. Дзякуючы партыйным настаўнікам, я мог спрагназаваць сітуацыю, зазірнуць у заўтра.

Яшчэ ў 1990 годзе я ў прамовах казаў, што Беларусь на шляху незалежнасці, што СССР напаткае крах.

**А ў верасні 1990-га ўпершыню заявіў: Беларусь стане членам Міжнароднага валютнага фонду, у нас будзе свая валюта і пасольствы, мы будзем займацца ліквідацыяй ядзернай зброі.**

Негатыўныя моманты партыйнага досведу вышуквалі нашы ідэалагічныя апаненты. У мяне не было зазнайства, срэбралюбства, фанабэрыі. Я як сакратар гаркама жыў на партыйнай дачы з гнілой падлогай – бараку, збудаваным палоннымі немцамі ў 1944 годзе, меў старую ржавую «Волгу». Зразумела, недахопы былі і ёсць. Скажу афарыстычна: недахопы ўваходзяць у склад здабыткаў, як яды ў склад лекаў.

**– Апісанне Вашай сустрэчы для перадачы спраў з папярэднікам, Міністрам замежных спраў БССР Анатолем Гурыновічам, вартае ўвайсці ў гісторыю дыпламатыі. Ваш папярэднік перадаў вам з сейфа адзіны дакумент – «Палажэнне пра Міністэрства замежных спраў БССР». Гэта адлюстроўвае не самыя светлыя старонкі знешнепалітычнай дзейнасці БССР – сутнасць працы беларускага МЗС. Я гэту сутнасць перадаю тэрмінам «беларускі атрад савецкай дыпламатыі. Ці была ў савецкі час «дыпламатыя БССР» або «беларуская дыпламатыя»?**

– Я з вялікай павагай стаўлюся да свайго папярэдніка **Анатоля Гурыновіча.** Яшчэ студэнтам, у канцы 1960-х, пачуў яго выступленне ў БДУ. Сваёй сур'ёзнасцю, акадэмічнасцю ён зрабіў на мяне прыемнае ўражанне. Хоць прамова яго была не вельмі яркай, вобраз дыпламата надоўга застаўся ў памяці.

А ваш тэрмін «беларускі атрад савецкай дыпламатыі» мае права на існаванне. Ён адлюстроўвае абмежаваны суверэнітэт тых часоў.

**Я выкарыстоўваю тэрмін «адкладзеная правасуб'ектыўнасць».**

Бо ў 1920-я гады яна была рэальнай, а пасля некалькі дзесяцігоддзяў яе не выкарыстоўвалі па незалежных ад нас прычынах.

Лічу, што можна выкарыстоўваць тэрмін «беларуская дыпламатыя», але не «дыпламатыя БССР». Сюды я ўключаю і парасткі дыпламатыі ў Полацкім княстве, і ВКЛ. Некалі быў вельмі ўсцешаны, калі ў Капенгагене мне паказалі дакумент 15 стагоддзя – дагавор паміж ВКЛ і Дацкім каралеўствам на старабеларускай мове. Да беларускай я аднош у і дыпламатыю БНР – трагічную старонку гісторыі і лёсы людзей, якія ахвяравалі ўсім дзеля Радзімы. Сюды ж уключым дыпламатычныя спробы 1919-1922 гадоў. І тое, што было пасля 1944 года. Так, тады мы былі невядомай краінай, але меліся два двухбаковыя дагаворы са Славеніяй і Балгарыяй, а таксама шматбаковыя дагаворы і пастаянныя прадстаўніцтвы ў Нью-Ёрку, Вене і Парыжы.

**– Ці праўда, што ў свой час Вы былі самым маладым Міністрам замежных спраў у свеце?**

# у 50 тысяч чалавек,

– Дакладна не ведаю. Але ў 1990-я ад Пятроўскага і іншых дыпламатаў чуў пра гэта.

**– Тое, як Вы пачалі працу міністра і працягвалі яе, мог зрабіць толькі чалавек з боку, палітык і беларускі патрыёт. Ва ўмовах нацыянальнага адраджэння і ўмацавання суверэнітэту МЗС БССР трэба была новая фігура, не з кар'ерных дыпламатаў, якая б не была ахутана карпаратыўнымі традыцыямі, інерцыяй падпарадкавання. Вы згодныя?**

– Новы час патрабаваў новых людзей. Але калі ёсць патрэба ў новых асобах, гісторыя рэалізуе яе. Калі б не з'явіўся Краўчанка, быў бы іншы. Бо ісці далей запрэжаным у савецкую дыпламатыю было ўжо немагчыма. Нельга было тым кадравым патэнцыялам сфармуляваць прынцыпова новыя ідэі і падыходы. Гэта павінны былі зрабіць не кар'ерныя дыпламаты, а палітыкі, грамадскія дзеячы, вучоныя, якія ведалі жыццё Беларусі ва ўсіх яго праявах, уключаючы праявы мітынговай дэмакратыі. Я не стаў бы міністрам, калі б не прайшоў палітычных баталій, каб не выступаў на чарнобыльскіх і іншых мітынгах у Мінску перад аўдыторыяй у 50-60 тысяч чалавек.

**– Вашы аратарскія здольнасці – гэта школа БДУ?**

– Так, гэта школа выкладчыка БДУ і сакратара гаркама партыі. Калі прыходзіш у адзіны палітдзень у ліцэйку №2 на трактарным заводзе, дзе людзі гатовыя цябе разарваць, то трэба валодаць сур'ёзнымі аратарскімі здольнасцямі. Ні адзіны кар'ерны дыпламат не даходзіў да ліцэйкі №2.

**– Ваш дыпламатычны дэбют на сесіі Генасамблеі ААН у 1990 годзе адзначыўся праектам рэзалюцыі, а потым і рэзалюцыяй па Чарнобылі і прапановай стварэння бяз'ядзернай зоны ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, якая ўвайшла ў гісторыю дыпламатыі як «дактрына Краўчанкі». У 1990-я яны захоўвалі сваё значэнне, а затым сышлі з парадку дня, хоць ААН працягвае займацца чарнобыльскай праблематыкай. Ініцыятыва па бяз'ядзернай зоне падхапіў Лукашэнка. Аднак нашы суседзі, усходнееўрапейскія дзяржавы, за выключэннем Украіны і Расіі, не падтрымалі яе. Як Вы ацэньваеце свае і ўсяго МЗС БССР ініцыятывы?**

– Чарнобыльская ініцыятыва ішла з жыцця, з таго, што людзі былі кінутыя на волю лёсу саюзнымі ведамствамі. Нам не дапамагалі ні лекамі, ні тамографамі, ні санаторыямі, ні даследаваннямі. Быў такі акадэмік Ільін, які даводзіў, што нічога не адбылося. Я сфармуляваў у якасці прыярытэту прыняцце першай у гісторыі ААН універсальнай рэзалюцыі, прысвечанай мінімізацыі ўплыву трагедыі.

> **Менавіта мінімізацыі, а не пераадоленню.**

Бо каб пераадолець гэтыя наступствы, трэба ад 360 да 420 гадоў. З прадстаўнікоў БССР, УССР і СССР стварылі рабочую групу, якую я і ўзначаліў. Займаўся рэзалюцыяй дзень і ноч. Было шмат чарнавой працы з падводнымі плынямі, барацьбой з МАГАТЭ.

ЗША выступалі супраць рэзалюцыі. Нас абвінавачвалі, што сацыяльныя праблемы дрэннага медабслугоўвання і няякаснай фармакалогіі мы хочам вырашыць з дапамогай міжнароднай супольнасці. Прыйшлося сустракацца з дыпламатамі ў Вашынгтоне і Нью-Ёрку. У выніку мы зламалі супраціўленне амерыканцаў. Дапамаглі галандцы, шведы, японцы, якія разумелі глыбіню праблемы. 4 снежня 1990 года рэзалюцыю прынялі кансэнсусам, без абмеркавання. Ад імя 114 дзяржаў яе прадставіў Міністр замежных спраў БССР. Прыняцце рэзалюцыі – гэта першае дасягненне маладой беларускай дыпламатыі. Значэнне рэзалюцыі ў тым, што яна мае ўніверсальны характар і адштурхоўваецца ад канкрэтнай тэхнагеннай катастрофы. Яна стала ўзорам для падобных экалагічных ініцыятыў. Дзякуючы ёй пачалі прымаць на аздараўленне нашых дзяцей за мяжу. Толькі ў Італіі за апошнюю чвэрць стагоддзя адпачыла больш за 500 тысяч чалавек.

Цяпер пра бяз'ядзерную зону. Парламент прыняў рашэнне праператварэнне Беларусі ў нейтральную і бяз'ядзерную рэспубліку. У кастрычніку 1990 года я ўпершыню выступіў у Нью-Ёрку пры абмеркаванні даклада МАГАТЭ на сесіі Генасамблеі. Да мяне падышоў вядомы савецкі журналіст **Аляксандр Шальнеў** і кажа: «Таварыш міністр, ад вас мокрага месца не застанецца. Бо вы з нейкай лухтой выступілі. Што вы заклікаеце да бяз'ядзернасці? Вы ж частка Савецкага Саюза. Я заўтра ў газеце «Известия» на другой старонцы «раздалбаю» вас. А я кажу: «Так, гэтая рэзалюцыя разглядае нас як частку Савецкага Саюза. Яна не можа быць рэалізавана цяпер, але мае рэалістычны змест. Падобныя ініцыятывы прымалі муніцыпалітэты японскіх і англійскіх партовых гарадоў. Пакуль мы выступаем з ініцыятывай як частка Савецкага Саюза, а далей жыццё пакажа». Мне давялося сфармуляваць тэзіс «пра бяз'ядзерную частку ядзернага цэлага», якой я карыстаўся ў наступныя часы і якая ўвайшла ў гісторыю міжнароднай дыпламатыі.

На наступны дзень у «Известиях» выйшаў артыкул без крытыкі. Ініцыятыва мела патэнцыял рэалізацыі. Але ўступленне ўсходнееўрапейскіх краін у НАТА яе перакрэсліла. У 1996 годзе ініцыятыву падтрымаў і развіў **Аляксандр Лукашэнка.**

**– Дыпламатыя ў галіне культуры – візітоўка Беларусі. У Ваш бок былі нават папрокі за шматлікія паездкі ў еўрапейскія сталіцы, адкрыццё помнікаў і мемарыяльных шыльдаў. Вы і цяпер актыўна займаецеся гэтай дзейнасцю. Што яна Вам дала і дае?**

– Гэтым напрамкам дыпламатыі я пачаў займацца таму, што мы былі невядомай для Еўропы краінай. Патрэбны быў не толькі палітыка-дыпламатычны прарыў, а яшчэ і інфармацыйны. Проста і эфектыўна запоўніць інфармацыйны вакуум пра краіну з дапамогай твораў яе мастакоў, пісьменнікаў, скульптараў. Напрыклад, у 1918 годзе ў свеце не ведалі пра Чэхію. Але дзякуючы **Яраславу Гашаку** і твору «Прыгоды бравага салдата Швейка» пра Чэхію даведаліся. А Чылі праслравіла паэтка, Нобелеўская лаўрэатка **Габрыэль Містраль.**

Культурная дыпламатыя – гэта чароўны ключ, які адчыняе дзверы ў свет цывілізацый. Мова культуры – універсальная. У якасці культурнага прыярытэту я абраў **Марка Шагала**, якога ведалі ў свеце, а таксама **Скарыну, Міцкевіча, Дамейку.**

**– Вы займалі пост міністра чатыры гады. Гэта цэлая эпоха – распад СССР, заканчэнне халоднай вайны, незалежнасць. Што аднесяце да Вашых дасягненняў?**

– Прыняцце Чарнобыльскай рэзалюцыі, ініцыятыва стварэння бяз'ядзернай зоны ва Усходняй Еўропе, міратворчыя ініцыятывы, а менавіта спроба ператварыць Мінск у пляцоўку шматбаковых перамоў. Я ініцыяваў стварэнне Мінскай групы па Нагорным Карабаху. Дабіўся гэтага на саміце Міністраў замежных спраў АБСЕ ў Стакгольме ў 1992 годзе падчас асабістых перамоў з Дзяржсакратаром ЗША **Бэкерам**, Міністрамі замежных спраў Германіі і Францыі – **Геншарам** і **Дзюма**, а таксама Арменіі і Азербайджана. Я дабіўся іх падтрымкі і кансэнсуса, і замест Рымскай групы ў гісторыю дыпламатыі ўвайшла Мінская група па Нагорным Карабаху.

За чатыры гады працы па лініі МЗС Беларусь атрымала **250 мільёнаў долараў** у чыстым выглядзе, якія не трэба было вяртаць – чарнобыльская дапамога, бязвыплатныя крэдыты, тое, што мы атрымалі за консульскія паслугі.

> **Мы мабілізавалі каля двух мільярдаў долараў звязаных і незвязаных крэдытаў.**

Я пасля параўноўваў. На такі ўзровень Беларусь потым выйшла толькі ў 2003 годзе. Дзякуючы ратыфікацыі дагавора «Старт» мы атрымалі ад Амерыкі **110 мільёнаў долараў.** Я ініцыяваў і даў назву пяці праграмам – «Стоп уран», «Дэзактывацыя», «Жыллё для вайскоўцаў», «Мабільныя сродкі кантролю», «Канверсія».

Прыкладна са 130 дзяржавамі мы заключылі дыпламатычныя адносіны. У 1992 годзе ў мяне было 57 камандзіровак за мяжу для таго, каб заключаць дагаворы, звязаныя з нашым міжнародным прызнаннем. Прыкладна за 1300 працоўных дзён мы падрыхтавалі, зацвердзілі і ратыфікавалі **978 дакументаў** – гэта значыць, амаль штодзень мы падпісвалі адну міжнародную дамову.

У ліпені 1993 года разам з **Васілём Быкавым** я быў сустаршынёй аргкамітэта першага з'езда беларусаў свету. Дзяржава ўзяла на сябе выдаткі гэтага ўнікальнага форуму. Мы выдалі бясплатныя візы беларусам, што ўпершыню прыехалі на гістарычную радзіму.

Але самае галоўнае – мы дабіліся незалежнасці і суверэнітэту.

> **Упершыню ў нацыянальнай гісторыі не Варшава, Масква ці Вільня, а Мінск стаў цэнтрам прыняцця лёсавызначальных палітычных рашэнняў, якімі, спадзяюся, будзе кіравацца наша нацыя.**

Мы выхавалі вялікую плеяду дыпламатаў. З віртуальнага міністэрства, па сутнасці – Дэпартамента па справах ААН, сталі сапраўдным еўрапейскім МЗС, стварылі сетку прадстаўніцтваў за мяжой. З таго калектыву, які я ўзначальваў, выйшла тры Міністры замежных спраў, каля сарака намеснікаў міністраў, больш за сто паслоў. Менавіта не я асабіста, а той калектыў, якія я ўзначаліў, і змог дабіцца такіх сур'ёзных вынікаў. Я шчаслівы, што мне давялося апынуцца ў патрэбны месцы ў патрэбны час, што змог ажыццявіць думкі беларускіх патрыётаў, пачынаючы ад **Льва Сапегі, Канстанціна Астрожскага, Кастуся Каліноўскага,** братоў **Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Аляксандра Чарвякова, Пятра Машэрава.**

**– А што не атрымалася зрабіць?**

– Не атрымалася давесці да канца бяз'ядзерную ініцыятыву.

Яшчэ мы забяспечылі ўнікальна хуткі палітыка-дыпламатычны старт у адносінах з ЗША. Але не змаглі замацаваць гэтыя адносіны і дабіцца эканамічных дывідэндаў. Калі зімой 1994-га прыязджаў **Біл Клінтан**, падпісалі больш за 10 эканамічных пагадненняў, якія, на жаль, засталіся на паперы.

Не рэалізавалі і патэнцыял, звязаны з магчымым уступленнем у Еўрасаюз, куды мы маглі інтэгравацца ў 2005-2007 гадах. Пра гэта сцвярджаў вядомы нямецкі палітолаг **Аляксандр Рар**. Адпаведная канцэпцыя была распрацаваная мной.

Не па-дзяржаўнаму мы павялі сябе ў адносінах да расійскіх ваенных баз у Беларусі. Не трэба было складаць беззмястоўныя дагаворы. Варта было ўсё эканамічна абгрунтаваць і атрымаць за адпаведныя паслугі грошы.

Не дабіліся ратыфікацыі Канвенцыі аб рэстытуцыі (вяртанні) культурных каштоўнасцей у межах СНД. Таму мы да сёння без Пражскай Біблііі, слуцкіх паясоў, Літоўскай метрыкі, бібліятэкі **Храптовічаў** і **Радзівілаў**.

> **На сёння Беларусь мае адзін працэнт свайго нацыянальнага духоўнага здабытку.**

Астатнія 99 – або знішчаныя, або ў Расіі, Украіне, Польшчы, Літве, Латвіі. І хаця нямнога шанцаў дабіцца іх вяртання, мы не павінны апускаць рукі і мірыцца са статусам-кво. Можна прыбягаць да абмену або набываць пэўныя каштоўнасці за грошы.

Яшчэ адна параза – не памірылі кіруючую эліту з апазіцыяй. Я спрабаваў запрашаць у склад Міністэрства прадстаўнікоў апазіцыі. **Пётр Садоўскі** прыняў прапанову і стаў першым паслом Беларусі ў Германіі. А **Лявон Баршчэўскі**, паліглот, якога я запрашаў на кіруючую пасаду ў МЗС, не атрымаў дазволу ад **Зянона Пазняка**. І мы згубілі цэннага дыпламата.

**– Адкуль у Вас узялася ідэя выступіць на Генасамблеі ААН у вышыванцы?**

– Змалку я быў выхаваны ў беларускім асяроддзі. Мядзельшчыны і Вілейшчыны. Ёсць фотаздымкі, дзе ў пяцісямігадовым узросце – я ў вышыванцы, якую мне зрабіла і падарыла маці – **Галіна Сяргееўна**. Гэта мая другая скура, унутраная каштоўнасць, якая мае сакральны змест. У ААН я звярнуў увагу, што міністры многіх краін не носяць еўрапейскія цывільныя касцюмы, а прыязджаюць у нацыянальных строях. Сказаў сабе: «А чым мы горшыя? Мы ж можам выклікаць цікавасць да самабытнай культуры Беларусі». Восенню 1991 года я ўпершыню выйшаў на трыбуну Генасамблеі ў вышыванцы. Мой дарадца, **Уладзімір Шчасны**, мяне адгаворваў, казаў, што гэта самазабойства. А я адказаў: прыйдзе час – і ўся беларуская моладзь будзе насіць вышыванкі. Прабачце за нясціпласць, але я аказаўся прарокам.

**Гутарыў прафесар**
**Уладзімір СНАПКОЎСКІ.**

# Былы актывіст БРСМ расказвае, як яго збівалі сілавікі

**Маладзечанец Дзмітры Бялоў расказаў пра тое, якім быў для яго вечар 10 жніўня. На мужчыну напалі ў двары за былым магазінам «Елгава». Там стаяў яго аўтамабіль.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Маладзечанец Дзмітры Бялоў некалькі гадзін змагаўся з тым, як пякло скуру пасля пярцовага балона.


Петлі вадзіцельскіх дзвярэй.


Лабавое шкло разбілі дубінкамі.

– Прыкладна ў 21:30 прыехаў сюды. У доме па Хмяльніцкага жывуць мае бацькі. Збіраліся гэтым вечарам сустрэцца з былымі аднакласнікамі. Пайшоў у магазін, купіў цыгарэты, квас. Каля аўтобуснага прыпынку сустрэў былога свайго кіраўніка з завода металаканструкцый. Ён з жонкай прагульваўся, вось мы разам глядзелі з боку на тое, што адбываецца. Даносіўся голас супрацоўніка аховы парадку, каб разышліся. Моладзь хадзіла туды-сюды, усё было бяскрыўдна. У нейкі момант натоўп пабег. Убачылі, што каля гімназіі №6 рушыць група сілавікоў у камуфляжы, са шлемамі, дубінкамі, сабакамі.

Сілавікі параўняліся з «Рублёўскім», сталі фарсіраваць агароджу, перайшлі на бег і пабеглі да натоўпу, які стаяў каля «Рублёўскага». У кагосьці з людзей быў сцяг. Мы зразумелі, што сітуацыя напружваецца, і, каб не было непрыемнасцей, вырашылі разысціся. Яны пайшлі ў бок дому, я завярнуў у двор да машыны. Закурыў, папіў квасу. Пасядзеў у машыне хвілін дзесяць. Здаецца, сітуацыя супакоілася, людзі ходзяць. Выйшаў. Хвілін 15 пататаўся каля дома, сустрэў знаёмага, разгаварыліся. Нейкія хлопцы спрабавалі ламануць рэкламны шчыт. Зрабіў ім заўвагу. Я не супраць акцый, маніфестацый, але ж навошта вандалізмам займацца.

Вярнуўся ў машыну, завёў рухавік, уключыў святло, сядзеў курыў. Якраз збіраўся з'язджаць. Праз праём паміж дамамі ламануўся натоўп. Зразумеў, што пачаўся другі этап штурму. Народ рынуўся ўрассыпную па двары. Людзі з бліжэйшых пад'ездаў не заставаліся ў баку – хтосьці трымаў дзверы ў пад'езд, хтосьці клікаў забягаць, некаторыя падтрымлівалі з балконаў. Раз бегаюць людзі, я ж не паеду. Думаю, пачакаю, калі разбягуцца. Следам за імі бяжыць натоўп праваахоўнікаў. Форма цёмная, штаны з вузкімі лампасамі, не ведаю, ці гэта АМАП. Частка пабегла за натоўпам пратэстуючых.

**Чалавек 8-10 акружылі маю машыну, ніхто не назваўся, выламалі дзверы з боку кіроўцы.**

Пачалі крычаць «Глушы машыну, што ты тут свеціш!». Пытаюся, а што здарылася, я ж у сваёй машыне, нікога не чапаю. Спрабаваў штосьці патлумачыць. Ніхто мяне не слухаў, пасыпаўся град удараў на машыну. Бачыў у праёме дзвярэй чатыры сілуэты. Двое білі дубінкамі, спрабаваў абараніцца, даставалася ў асноўным па левай руцэ і назе. Адзін спрабаваў трапіць у галаву, зарадзіў у левае брыво. Ад чацвертага прыляцела каленам у рэбры – два тыдні ні чхануць, ні кашлянуць. Раздзерлі на мне майку, залілі левы бок, шыю, грудзі пярцовым балонам.

**Паловай правага вока, куды яшчэ не зацёк перац, яшчэ нешта бачыў. Спрабавалі вырваць мяне з машыны, я нешта крычаў.**

У мяне білет БРСМ-аўца, быў кіраўніком пярвічкі ў гімназіі №10, у свой час прымаў актыўны ўдзел. Калі працаваў на заводзе металаканструкцый па лініі БРСМ, ездзілі на пасадкі дрэў, суботнікі, розныя акцыі. Я падаваўся ў шэрагі грамадскіх дружыннікаў, нам давалі пасведчанні. Нашым абавязкам было садзейнічаць органам правапарадку ў выпадку нестандартных сітуацый. Я пра гэта крычаў, спрабаваў патлумачыць, хто я, але ніхто не слухаў.

Разумею, што калі яны мяне дастануць, то на мне жывога месца не застанецца. Інстынктыўна завёў машыну, уключыў заднюю перадачу. У цемры было складана разабраць, хто вакол аўтамабіля. Здаў да бацькоўскага пад'езда. Праз разбітае лабавое шкло бачыў сілуэты, за мной гналіся. Была думка, каб толькі не ўрэзацца ў аўтамабілі на паркоўцы або смеціцу. Даехаў да бацькоўскага пад'езда, развярнуўся і паехаў уздоўж парку. І паехаў да знаёмых, з якімі і збіраліся сустрэцца гэтым вечарам, пазваніў брату.

Ён дапамог машыну зачыніць, сцягнуць з мяне рэшткі майкі. Аднакласніца вынесла вады, дапамагала трымацца ў прытомнасці да трох гадзін ночы. Разоў 20 ці 30 схадзіў у ледзяны душ, каб змыць з сябе перац. Пякло неверагодна. Спрабавалі і малаком, і смятанай, і кефірам, і растворам соды. Інтэрнэт ледзь працаваў, шукалі метады барацьбы з пярцоўкай.

**Абклалі цела нарэзанымі агуркамі – знайшлі параду праз ледзь працуючы сігнал. І толькі ў тры ночы змог неяк легчы.**

Знаёмы сказаў звяртацца ў пракуратуру. У пракуратуры параілі напрамкі звярнуцца ў Следчы камітэт. Там следчы склаў пратакол, накіравалі на здымак, бо балелі рэбры. Доктар сказаў, што моцны ўдар, як аблегчыць стан. Узялі аналіз на алкаголь. Медэкспертыза зафіксавала ўдары на руцэ, назе, удар рэбраў. У машыне разбілі лабавое шкло, цалкам разляцелася шкло над багажнікам, выламаныя дзверы з боку кіроўцы. Калі ўцякаў ад сілавікоў, ратуючы жыццё, не змог нават іх толкам зачыніць. Разбітая фара, шмат адмецін ад дубінак на корпусе. 15 удараў дубінкамі было дакладна.

Прыйшла папера са Следчага камітэта, што следчыя дзеянні працягваюць да 10 верасня.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Калі вы або вашы блізкія пацярпелі ад дзеянняў сілавікоў або былі затрыманыя 9-13 жніўня, калі ласка, звяжыцеся з рэдакцыяй па адрасе: **regionnews@rh.by.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Шэсце маладзечанцаў 30 жніўня.

# Чым займаецца маладзечанская ініцыятыўная група

**Журналісты «Рэгіянальнай газеты» распыталіся, чым займаюцца прадстаўнікі ініцыятыўнай групы Маладзечна і ў якім стане ініцыятывы па зборы подпісаў.**

### 1. Куды падзеўся Валер Савіцкі

**Валер Савіцкі** стаў тым чалавекам, чый нумар тэлефона днём 14 жніўня ўзяў старшыня райвыканкама **Юры Горлаў**, каб паведаміць аб часе сустрэчы. Тады жыхары патрабавалі сустрэчы з кіраўніцтвам горада, каб ім адказалі на хвалюючыя пытанні. Горлаў абяцаў пазваніць у 17 гадзін і прызначыць час.

Са слоў Савіцкага, старшыня пазваніў у 17:10, калі пачалі выпускаць затрыманых на мітынгах. Паведаміў, што ў гэты дзень не можа сустрэцца, не гатовы размаўляць раней за панядзелак, 17 жніўня.

Днём 17 жніўня адбыліся перамовы паміж прадстаўнікамі ініцыятыўнай групы і старшынёй райвыканкама, начальнікамі маладзечанскіх РАУС і СК, пракурорам раёна. Ад ініцыятыўнай групы быў Савіцкі, прадпрымальнік **Андрэй Чыжэўскі** і мінскі юрыст, запрошаны Чыжэўскім.

На сустрэчы дамовіліся стварыць рабочую групу для вырашэння наспелых пытанняў, у якую будуць уваходзіць прадстаўнікі ўлады, сілавых структур, медыкаў і ініцыятыўнай групы. Што ўлада вызначыць месца для сходаў грамадзян і ініцыятыўнай групы. Што маладзечанская міліцыя прадставіць спіс па ўсіх затрыманых 9-13 жніўня. А ў канцы працоўнага дня ўдзельнікі падпішуць пратакол сустрэчы з прапісанымі дасягнутымі дамоўленасцямі.

Другая сустрэча адбылася ў канцы рабочага дня 17 жніўня. Пратакол сустрэчы паміж бакамі не быў падпісаны.

На наступны дзень, 18 жніўня, адбылася трэцяя сустрэча ініцыятыўнай групы з уладай, на ёй прысутнічала і дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Людміла Канановіч**. На гэтай сустрэчы Юры Горлаў паказаў фотаздымкі Савіцкага са сцягам ДНР і заявіў, што не мае даверу да Савіцкага і лічыць, што да яго не маюць даверу людзі на плошчы.

Пасля гэтага Савіцкі выступіў на плошчы і сказаў, што гатовы працягваць выконваць працу, але лічыць, што не можа выглядаць лідарам ініцыятыўнай групы.

23 жніўня Валерыя запрашалі ў міліцыю, дзе ён падпісаў дакумент, паводле якога ён азнаёмлены з адказнасцю за ўдзел у несанкцыяніраваных масавых мерапрыемствах. Калі яго заўважаць на мітынгу, у яго адрас будзе заведзеная крымінальная справа.

Савіцкі падкрэслівае, што не даваў інтэрв'ю «Московскому комсомольцу» і напісанае там ад яго асобы – няпраўда.

– Я адышоў у бок, каб не расколваць людзей на тых, каго не задавальняюць мае погляды і перакананні, і на ўсіх астатніх, хто іх падзяляе або каму ўсё адно, – паведаміў Савіцкі журналісту «Рэгіянальнай газеты».

Валеры перадае маладзечанцам, што застаецца разам з імі і працягвае шукаць відэа- і фотадоказы прымянення гвалту ў бок мірных жыхароў, дапамагаць пацярпелым.

### 2. Што з подпісамі за адкліканне Канановіч

Прадстаўнікі ініцыятыўнай групы сабралі больш за 3000 подпісаў наконт адклікання паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў Людмілы Канановіч. Гэтым кірункам займаецца прадпрымальнік Андрэй Чыжэўскі, які разам з Валерыем Савіцкім прысутнічаў на трох перамовах з прадстаўнікамі ўлады ў Маладзечанскім райвыканкаме.

У Маладзечанскі райвыканкам накіравалі ўжо два звароты з тым, каб улада прызначыла месца, дату і час сходу, на якім выбаршчыкі абмяркуюць пытанне адклікання дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Маладзечанскай гарадской акрузе №72 Людмілы Канановіч. Першы зварот ад жыхароў з больш чым 400 подпісамі падалі 24 жніўня.

– Будзем глядзець, што на нашы запыты адкажа ўлада, – кажа Чыжэўскі. – Мы маем больш за 10 пакетаў зваротаў з подпісамі, будзем падаваць да таго часу, пакуль правядзенне сходу не ўзгодняць.

Таксама да Чыжэўскага звяртаюцца некаторыя людзі, якія былі затрыманыя, па дапамогу ў праходжанні юрыдычных працэдур.

### 3. Подпісы пад зваротамі да Чырвонага Крыжа, Беларускага саюза жанчын, Беларускага фонду міру, «Маладзечанскай газеты»

Гэтыя подпісы таксама сабраныя і рыхтуюцца для падачы па адрасах.

Такім чынам, ініцыятыўная група пераважна займаецца папяровай працай і дапамогай пацярпелым. І пазбягае выступленняў, на якіх яны могуць быць расцэненыя праваахоўнікамі як лідары пратэстнага руху.


Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

## Маладзечанцы падалі зварот на адкліканне Канановіч

27 жніўня ў Маладзечанскі райвыканкам занеслі зварот ад калектыву ЗАТ «Маладзечнамэблія». Зварот занёс і зарэгістраваў прадстаўнік калектыву прадпрыемства **Уладзімір Станевіч**.

Заява накіраваная старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Юрыю Горлаву** і старшыні Маладзечанскага райсавета дэпутатаў **Андрэю Паукшцэ**.

У звароце заяўляюць аб скліканні сходу па пытанні адклікання дэпутата Палаты прадстаўнікоў Людмілы Канановіч.

Зварот падпісалі 204 работнікі «Маладзечнамэблі».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Пратэсты ў Маладзечне працягваюцца пад назіраннем міліцыі

На працягу тыдня ў Маладзечне праходзяць акцыі пратэсту. Пратэстоўцаў суправаджаюць супрацоўнікі міліцыі, якія папярэджваюць пра незаконныя дзеянні дэманстрантаў і просяць разысціся.

Дэманстранты збіраюцца на маладзечанскіх вуліцах амаль кожны дзень. На акцыю выходзяць ад некалькіх дзясяткаў да сотні чалавек. Калі ў першы тыдзень пасля выбараў маршрут шэсця быў ад Лядовага палаца да Цэнтральнай плошчы, то цяпер дэманстранты не ідуць на плошчу.

Людзі на акцыях пратэсту ў Маладзечне шпацыруюць з бел-чырвона-белымі сцягамі па вуліцах і дварах горада.

Міліцыянеры суправаджаюць пратэстоўцаў, аднак не прымаюць ніякіх дзеянняў акрамя папярэджванняў аб незаконнасці шэсцяў і мітынгаў. Напрыклад, 30 жніўня на Цэнтральнай плошчы знаходзілася некалькі дзясяткаў міліцыянераў. Таму традыцыйнае нядзельнае шэсце пратэстоўцы не завяршылі на плошчы, а проста абышлі яе.

**Настасся УТКІНА.**




Турысты-раварысты.

# 310 кіламетраў – на ровары

## Турысты зладзілі сямейны паход па рэгіёне

**Ад 10 да 16 жніўня праходзіў традыцыйны сямейны роварны паход па Міншчыне, Гродзеншчыне і Віцебшчыне. Група ў складзе 12 чалавек – жыхароў Маладзечна, Мінска і Гродна – праехала 310 кіламетраў за сем дзён. Самаму старэйшаму ўдзельніку, Вячаславу Жураўлёву, было 75 год, самаму маладому, Мацвею Самсановічу, – 16. Уражаннямі ад паходу падзяліўся арганізатар Сяргей Бялкоў.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Ад Маладзечна да Крулеўшчыны

– Наш маршрут прайшоў праз Маладзечна, вёску Заброддзе на Вілейшчыне, Смаргонь, Свір, Камаі, Паставы, Варапаева, вёскі Гута, Казлоўшчына, Парыж. Былі мы на крыніцы Грамякі, у Глыбокім і на возеры Белым. Скончыўся паход на станцыі Крулеўшчына. Там мы селі на цягнік Полацк-Маладзечна і даехалі дадому, – расказвае Сяргей Бялкоў.

У касцёле ў Камаях арганістка **Алена Ваўжук** зладзіла турыстам экскурсію па касцёле і канцэрт арганнай музыкі са спевамі. Некаторыя ўдзельнікі групы ўпершыню пачулі арган.

У крыніцы Грамякі кожны ахвотны мог акунуцца. Праўда, такіх знайшлося няшмат. Нават у спякотныя дні тэмпература вады тут не вышэй за восем градусаў.

Мой суразмоўца, ураджэнец Віцебшчыны, адзначыў, што на яго радзіме ёсць шмат чыстых азёраў. Калі заехалі на Віцебшчыну, маршрут планавалі такім чынам, каб раніцай маглі купацца ў адным возеры, а ўвечары – у другім.

### Як абраць месца для начоўкі

Месца для начоўкі выбіраюць бяспечнае, з чыстай пітной вадой і дровамі. Турысты практыкуюць спыняцца ля аграсядзіб і вёсак, бо не заўсёды вядома, ці ёсць забарона на наведванне лясоў. Гаспадары сядзіб звычайна не супраць, калі турысты размяшчаюцца ў іх на сотках.

На некаторых месцах, напрыклад, на возеры Белым, турысты спыняюцца ўжо каля 20 гадоў, таму добра яго ведаюць. Калі ж абіраць месца для начлегу па карце, могуць быць сюрпрызы, сцвярджае суразмоўца. Па яго назіраннях, цяпер прырода вельмі хутка мяняецца. Азёры апошнія 20-30 год зарастаюць, забалочваюцца.

Сняданне, абед і вячэру турысты, часцей за ўсё, гатуюць самі. Радзей могуць зазірнуць у кавярню ці набыць батон з малаком.

### А самы важны ў ровары – багажнік

Традыцыя сямейных паходаў у Маладзечне



Турысты на «Эйфелевай вежы» ў вёсцы Парыж.

закладзеная ад пачатку 1990-х.

– Ящчэ калі мае дзеці былі малыя, мы ездзілі ў паходы некалькімі сем'ямі. Дзеці выраслі, але традыцыя засталася. Пра паходы турысты даведваюцца дзякуючы клубу «Пілігрым», клічуць сваіх знаёмых з іншых гарадоў, – расказвае Сяргей Бялкоў.

Падчас падрыхтоўкі да паходу вызначаюць ролю кожнага ўдзельніка. Сёлета **Ганна Будзько** адказвала за харчаванне. Яе муж **Віталь** быў фатографам. А з рамонтным майстрам **Юрыем Самсановічам** турысты не хваляваліся за тэхнічны стан сваіх ровараў.

Роварны паход – самы лёгкі на сённяшні, лічыць мой суразмоўца. Бо ўвесь груз – на багажніку:

– Для турыста трэба абавязкова мець ровар з багажнікам. А да яго – спецыяльны роварны заплечнік. Звярніце ўвагу, 90 працэнтаў ровараў сёння – без багажніка. Гэта прагулачны варыянт, але не турыстычны.

### Білет на цягнік: на ровар даражэйшы, чым на гаспадара

Пытаюся, ці лёгка ў Беларусі раварыстам ехаць у цягніку. Па словах Сяргея Бялкова, асаблівых праблем няма:

– Беларускія цягнікі ў нас пакуль без абсталяваных месцаў. Але ж набываем два білеты – на ровар і на сябе. Цікава тое, што білет для ровара каштуе даражэй, чым для мяне, пенсіянера.

На думку суразмоўцы, паход – гэта магчымасць праверыць пабытавыя навыкі, паглядзець, як ты зможаш быць на прыродзе.

– Ведаю выпадак, калі студэнты-трэцякурснікі, 20-гадовыя хлопцы з Мінска, прыехалі на станцыю Зялёнае з замарынаваным шашлыком і пасля дажджу не змаглі развесці касцёр. Так з шашлыком дамоў і паехалі, – дзеліцца турыст.

### Маладзечанец Віталь Будзько: Асабліва запомнілася Заброддзе

Падзяліцца ўражаннямі ад першага ў жыцці роварнага паходу мы папрасілі і маладзечанца Віталя Будзько. Да турызму яго далучыла жонка Ганна.

– Канешне, часам нялёгка круціліся педалі пад горку. Але не было мэты паставіць нейкі рэкорд. На маршруце – шмат яркіх аб'ектаў. Найбольш запомніўся музей Цітовічаў пад адкрытым небам у Заброддзі на Вілейшчыне. Гістарычныя або краязнаўчыя музеі ёсць у любой мясцовасці, але ў Заброддзі музей вельмі своеасаблівы…

…Па словах удзельнікаў паходу, турысты ўжо чакаюць новага сезона, каб чарговым летнім ранкам зноў увасобіць сваю даўнюю традыцыю – выпіць кубак кавы ў… возеры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Яго тройчы праводзілі ў Беларусі ад 1991 года.
3. Прозвішча нямецкага ваеннага дзеяча, камандзіра люфтвафэ.
5. Пад якім мястэчкам адбылася бітва 14 ліпеня 1510 года.
8. Самы старажытны горад Беларусі.
9. Кіраўнік НКВД, родам з Валожыншчыны.
10. Перыяд у гісторыі, які пачаўся з падзення Заходняй Рымскай імперыі.
12. Устаўная ... БНР.
15. Кіраваў Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамадой ад 1998 года.
16. Твор Міколы Гусоўскага.
17. Самы старажытны і заможны род у ВКЛ.
20. Нацыянальны герб Беларусі.
22. Вітаўт і Ягайла заключылі Крэўскую ...
24. Нямецкія і савецкія войскі правялі парад у 1939 годзе ў гэтым беларускім горадзе.
25. Першы каранаваны князь на беларускай тэрыторыі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Князь, які перанёс сталіцу ВКЛ у Вільню.
4. Прозвішча генерала, які правёў паспяховую ваенную аперацыю на тэрыторыі Беларусі падчас Першай сусветнай.
6. З каралеўствам якой краіны аб'ядналася ВКЛ пад кіраўніцтвам Вітаўта.
7. Яўрэйская сацыялістычная партыя пачатку ХХ стагоддзя.
11. Горад, у якім адбыўся першы з'езд РСДРП.
13. Усходнеславянскі племянны саюз.
14. Імя аўтара бел-чырвона-белага сцяга, які родам з Глыбоччыны.
15. Прывілеяванае саслоўе ў ВКЛ.
18. На рэферэндуме ў 1995 годзе змянілі не толькі герб, але і ...
19. Саюз краін, які змагаўся супраць Траістага саюза падчас Першай сусветнай.
20. Прозвішча апошняга польскага караля і вялікага князя літоўскага.
21. Буферная дзяржава, якую стварылі падчас польска-савецкай вайны на беларускіх землях.
23. Які горад акрамя Хірасімы бамбілі амерыканцы ў 1945 годзе?

## Адказы на крыжаванку з №35

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Чайнік. 3. Цаля. 6. Тытанік. 8. Штора. 9. Рэфлексы. 11. Цвярозы. 14. Юркі. 18. Эпоха. 19. Ньютан. 20. Песня. 21. Манаполія. 26. Купэ.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Аўтамабіль. 4. Каралы. 5. Цацка. 7. Будзільнік. 8. Шлак. 10. Энергія. 12. Каханых. 13. Цвёрды. 15. Сарочкі. 16. Экіпаж. 17. Падлетак. 18. Экзамен. 22. Мінейка. 23. Ніл. 24. Пратэст. 25. Каляровы.

## ● ГАРАСКОП НА 4-10 ВЕРАСНЯ


**АВЕН.** Вас чакае вельмі насычаны тыдзень. З кожным днём становіцца ўсё больш спраў, якія патрабуюць увагі, часцей давядзіцца браць на сябе адказнасць за іншых. Трэба прымаць важныя рашэнні.


**ЦЯЛЕЦ.** Пераважае ўплыў пазітыўных тэндэнцый, і гэта заўважна ва ўсіх сферах жыцця. Не будзьце занадта ўпартыя: часам больш выгадна пайсці на саступкі, чым марнаваць сілы і час, адстойваючы сваю правату.


**БЛІЗНЯТЫ.** Будзьце ўважлівыя. Гэты тыдзень – дакладна не з тых, калі можна давяраць першаму ўражанню, казаць усё, што прыходзіць у галаву, і ісці на смелыя эксперыменты, не раздумваючы пра тое, які вынік яны могуць даць.


**РАК.** Старайцеся ні пра што асабліва не трывожыцца на пачатку тыдня, не рэагаваць занадта востра на падзеі, што адбываюцца. Гэта не самы спрыяльны перыяд, але ўсё ж не такі складаны, як вам можа часам здавацца.


**ЛЕЎ.** Настрой пераменлівы, вы часцей, чым звычайна, губляеце раўнавагу з-за дробязей. Некаторыя прадстаўнікі знака асабліва маюць патрэбу ў падтрымцы.


**ДЗЕВА.** Дні могуць прынесці моцныя перажыванні. Не заўсёды для іх ёсць сур'ёзныя прычыны, часам вы проста занадта востра рэагуеце на дробязі, нервуецеся з-за таго, чаго ў іншы час проста не заўважылі б.


**ШАЛІ.** Гэта нядрэнны тыдзень, але паспешныя рашэнні, неабдуманыя словы і ўчынкі могуць усё сапсаваць. Не выключана, што вам спатрэбіцца парада старога знаёмага, блізкага чалавека, які добра разумее вас.


**СКАРПІЁН.** Лепш нічога не адкладаць на потым. Першая палова тыдня спрыяльная, інтуіцыя часта падказвае вам, як лепш паступіць, што варта сказаць ці зрабіць, каб дамагчыся поспеху.


**СТРАЛЕЦ.** Гэтыя дні абяцаюць незвычайныя сустрэчы і цікавыя знаёмствы. Ён добра падыходзіць для таго, каб пабачыцца з чалавекам, якому вы хацелі б спадабацца.


**КАЗЯРОГ.** Пачатак тыдня выдатна падыходзіць для вырашэння многіх важных пытанняў. Менавіта ў гэты час могуць з'явіцца добрыя ідэі, і неўзабаве вы пачнеце ўвасабляць іх у жыццё.


**ВАДАЛЕЙ.** Прыслухоўвайцеся да сябе ў першай палове тыдня. Можна пачынаць новыя справы, калі яны патрабуюць у большай ступені вынаходлівасці.


**РЫБЫ.** Асабліва важна пазбягаць спешкі там, дзе гаворка ідзе пра рэчы, важныя не толькі для вас. Патрэбны час, каб разабрацца ў сітуацыі, прыслухацца да падказак інтуіцыі.

Падрыхтавала
Ева МАЛІНІНА.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | | | | 2 | 1 |
| | 1 | | | | | | | 9 |
| | 2 | | | | 3 | 7 | | 4 |
| | | | | | 8 | | 7 | |
| 3 | | | 5 | 7 | 9 | | | |
| | | | 6 | 4 | 1 | | 8 | |
| | 3 | 2 | 7 | | | 4 | | |
| | | | | 2 | 4 | 5 | 1 | |
| 5 | | | | | | 2 | 3 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by






Так выглядае цяпер месца, дзе павінна з’явіцца школа.

## Пачаліся работы на месцы будаўніцтва школы-садка

МАЛАДЗЕЧНА

На пляцоўцы, дзе павінна з’явіцца пачатковая школа-садок ва Усходнім мікараёне ў Маладзечне, пачаліся работы.

На ўчастак завезлі бетонныя пліты. Будучую будоўлю абгароджваюць. Часам на ўчастку з’яўляецца тэхніка.

Нагадаем, што будынак пачатковай школы-садка на 471 месца плануюць здаць да верасня 2021 года. У новым вучэбна-педагагічным комплексе будзе 150 месцаў для дашкольнікаў і 321 – для малодшых школьнікаў.

Будоўлю планавалі пачаць у маі 2020.

**Аддзел інфармацыі.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Чаго вы чакаеце ад верасня?



**Ягор Мышук, аператар, Маладзечна:**
– Чакаю справядлівасці і сумлення ад улады – як ад дзяржаўнай, так і ад мясцовых. І выканання ўсіх патрабаванняў беларускага народа. І спадзяюся, Расія не будзе ўмешвацца.



**Ганна Сафонава, актыўная грамадзянка, Маладзечна:**
– Я чакаю новых пазітыўных навін пра адкліканне дэпутатаў. Таксама чакаю, што хто-небудзь з фальсіфікатараў знойдзе ў сабе сілы дапамагчы даказаць злачынства.



**Канстанцін Манкус, аналітык у фінансавай кампаніі, Маладзечна:**
– Новага прэзідэнта.



**Анжаліка Гудзебская, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Чакаю мірнага неба і моцнага здароўя родных і блізкіх, ды і ўвогуле ўсіх.



**Вольга Пашкоўская, загадчыца аддзялення паштовай сувязі, Маладзечна:**
– Чакаю сонечнага надвор’я, аптымістычнага настрою, больш усмешак на тварах людзей, добразычлівых кліентаў на працы, добрых адзнак у дзённіку сына. І каб родныя не хварэлі.



**Святлана Паўлоўская, прадавец, Маладзечна:**
– Перамен.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

### Чытайце праз тыдзень:

● Герб Пагоня – старадаўні сімвал Беларусі. Распавядаем гісторыю яго з’яўлення на беларускіх землях, а таксама пакажам, як Пагоня звязаная з бел-чырвона-белым сцягам.

## 5 верасня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3-5 м/с




Усход 6.28
Захад 19.54
Даўжыня дня 13.26

Усход 21.18
Захад 9.37
Месяц на сходзе

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР’Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +1,8°C у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +27,8°C у 1967 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 34,6 мм у 2009 годзе

Паводле meteoinfo.by.




Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб’ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№36 (1323) 4.09.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1478. Падпісана ў друк у 9.00 3.09.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.